# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 8 (270) 1 — 7 сакавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ


БЕЛАРУСЬ 1997 · BELARUS 2000

1872 1957

РА "БЕЛПОШТА" БЯЛЫНІЧЫ 26.02.1997

125 гадоў з дня нараджэння В.К. БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ

ПЕРШЫ ДЗЕНЬ · PREMIER JOUR



***...Над беларускімі краявідамі, блакітнымі лясамі і палямі сцелецца празрысты туман, прабіваецца сакавіцкае сонейка, зіхацяць яго маладыя залацістыя і ружовыя промні...***
***Раніцаю па вузенькіх сцежках хадзіў пажылы чалавек з эцюднікам, слухаў птушыныя спевы, любаваўся шчодрымі малюнкамі, нібы напісанымі самой матухнай-прыродай. Гэтага чалавека на Беларусі ўсе ведалі; ведалі і любілі свайго знакамітага земляка і славутага мастака. Імя яго — Вітольд Каэтанавіч Бялыніцкі-Біруля.***

Роўна 50 гадоў таму ён прыехаў на радзіму з Масквы і на працягу вясновых і летніх месяцаў працаваў натхнёна, энергічна, многа. "Цяпер, калі я зноў убачыў родныя мясціны... мне з яшчэ большым запалам хочацца перанесці на палатно аблічча краіны, якая адраджаецца". І ён перанёс на палотны і зялёныя беларускія бярозкі, і квітнеючыя яблыні, і вёсачкі на пачатку лета, і смарагдавы травень, і мінскія ваколіцы.І ўсё гэта — каштоўныя зярняты высокага жывапісу...

Вітольду Бялыніцкаму-Бірулі — 125 гадоў. Ён і сёння — сімвал беларускай мастацкай спадчыны. Мы помнім яго. Мы ганарымся ім. І запрашаем усіх, хто любіць жыццё, яшчэ раз акунуцца ў свет яго светлага мастацтва і паглядзець выставу твораў выдатнага жывапісца ў Нацыянальным мастацкім музеі. Адкрылася яна заўчора, напярэдадні дня нараджэння сусветнавядомага Пейзажыста, які моцна любіў вясну Радзімы...

(Працяг на стар. 10)

# ВЕЛІЧ ВІТОЛЬДА






*Шаноўныя чытачы!*

**Сёння Вы атрымалі не зусім звычайны нумар нашай газеты, амаль цалкам прысвечаны культурным падзеям у жыцці дзяржавы, якія яшчэ маюць адбыцца ў сакавіку. І не толькі... Такія выпускі мы лічым мэтазгодным рабіць на пачатку кожнага месяца.**

**Эксклюзіў-прадвесце для Вас:**

А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

**...**

**Я чытаю і выпісваю "К"!**

**Індэкс — 63875**

# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## ПРАБЛЕМЫ НА ДАЛОНЯХ МІНІСТЭРСТВА

***5 сакавіка ў Міністэрстве культуры на калегію будуць вынесены два пытанні: "Аб стылі і метадах кіравання творча-вытворчай дзейнасцю Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы" і "Аб выніках атэстацыі Беларускага універсітэта культуры ў 1996 годзе". З гэтай нагоды наш карэспандэнт звярнуўся за каментарам да начальніка аддзела тэатраў Вадзіма ДАПКЮНАСА і начальніка ўпраўлення навучальных і навукова-даследчых установ Аляксандра СЦЕПАНЦОВА.***

***Вадзім ДАПКЮНАС:***

— Мэта калегіі — разгледзець сённяшні стан тэатральнага мастацтва краіны праз прызму існавання Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Нас турбуе не толькі арганізацыя творчага працэсу, але і недахоп сродкаў на ажыццяўленне розных тэатральных праектаў.

У параўнанні з 1993, 1994 гадамі ў 1996 тэатры паставілі болей спектакляў. Прычым акцёрскае майстэрства не пагаршаецца, а хутчэй наадварот — падвышаецца. У сярэднім на кожны тэатр прыпадае пяць прэм'ер на год. Вось, напрыклад, тэатр Якуба Коласа — ён выпусціў дзевяць пастановак! Даводзіцца круціцца і адгукацца на кожнае запатрабаванне гледача.

***Аляксандр СЦЕПАНЦОЎ:***

— Ва універсітэце культуры прайшла атэстацыя навукова-выкладчыцкага саставу, яна засведчыла пра высокі ўзровень падрыхтоўкі кадраў. У сценах гэтай установы будуць развівацца нашы самабытныя беларускія таленты. Мне прыемна, што ў нашай краіне моладзь мае магчымасць атрымліваць веды на гэткім высокім узроўні.

Зараз універсітэт рыхтуе спецыялістаў, якіх раней прыходзілася рыхтаваць у Расіі. Напрыклад, уведзена спецыяльнасць харэографа бальнага танца.

Так здарылася, што пэўныя абставіны замарозілі прыбудову новых універсітэцкіх карпусоў. Таму цяпер гэтае пытанне фактычна найгалоўнае сярод праблемаў дадзенай установы.

Універсітэт культуры з'яўляецца адным з вядучых ВНУ краіны. Выкладчыцкі састаў моцны, але патрэбны памяшканні, патрэбны грошы...

**З.В.**

## СПАТКАЕМСЯ Ў МУЗЕІ?

***Музеі сталіцы, якія заўсёды былі асноўнымі зберагальнікамі нашай спадчыны і якія ў многім вырашаюць сёння праблему вольнага часу і выхавання моладзі, у сакавіку адкрываюць новыя экспазіцыі, выставы, наладжваюць літаратурныя вечарыны, сустрэчы з лаўрэатамі за мінулы год у галіне мастацтва і літаратуры.***

**Дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Генадзь ГАРКУН** на пытанне, што новага ўбачаць наведнікі музея ў сакавіку, адказаў:

— У музеі будзе працаваць выстава новых паступленняў апошніх гадоў. Гаворка ідзе пра экспанаты, якія мы сабралі за апошнія тры гады. Супрацоўнікі музея так называюць гэтую выставу: радасць збіральніка. І гэта сапраўды так, бо ўсе экспанаты надзвычай цікавыя. Апрача гэтага, напярэдадні 8 сакавіка мяркуем правесці сустрэчу з жанчынамі-ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Падчас яе будзе дэманстравацца відэафільм пра лётчыц-ветэранаў Галіну Дакутовіч і Галіну Гельман. Гэта нашыя землякі, родам яны з Гомельшчыны, абедзве здзіўлялі гераізмам у час вайны сваіх аднапалчанаў. У другой палове сакавіка мяркуем правесці сустрэчу з вядомым мастаком Міхаілам Савіцкім — аўтарам цыкла карцін "Лічбы на сэрцы".

А наогул вось ужо тры гады як мы працуем над новай канцэпцыяй музея. Сёння мы імкнемся паказаць Вялікую Айчынную з усіх бакоў, каб экспазіцыя музея давала ўяўленне таксама і пра негатыўныя з'явы: пра калабарантаў і пра паліцыю. Гэтага з гісторыі вайны не выкінеш. Задума часткова рэалізавана, у дзвюх залах музея экспазіцыя ўжо новая. Мантаж астатніх залаў мы пачынаем якраз у сакавіку. І вось тут мы сутыкнуліся з праблемай фінансавай. Дарэчы, мы вельмі ўдзячныя Міністэрству культуры за дапамогу, нам ужо была выдзелена пэўная сума грошай, але яна, на жаль, не вырашае праблему цалкам.

Што ж, сапраўды, праблема фінансавая ці не першая на сённяшні дзень для ўсіх устаноў культуры. Давайце зазірнем у літаратурныя музеі і даведаемся, як жа яны вырашаюць фінансавыя дый астатнія надзённыя пытанні.

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры** зараз ідзе рамонт. Гэта і вызначыла, што на сакавік запланавана толькі два мерапрыемствы: 7 сакавіка адкрыецца выстава, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Тараса Хадкевіча, у гэты ж дзень ладзіцца літаратурная вечарына. Напрыканцы сакавіка — дакладная дата яшчэ не вызначана — адбудзецца сустрэча з Уладзімірам Міхнюком — аўтарам новай кнігі "Язэп Пушча". Намеснік дырэктара музея Зінаіда Лявонаўна Кучар паведаміла нам, што ў музей паступілі новыя фонды: дакументы асабістых архіваў Васіля Віткі, Янкі Маўра, Сяргея Новіка-Пяюна. Зараз яны праходзяць навукова-тэхнічную апрацоўку.

**Літаратурны музей Янкі Купалы** 3 сакавіка адкрывае выставу "У сугуччы культур..." На 14 сакавіка плануецца прэзентацыя 2-га тома збору твораў Янкі Купалы, таксама агляд архіўных росшукаў "Невядомае пра Купалу". Вечарына ў Доме літаратара да 115-годдзя з дня нараджэння вялікага песняра пад назвай "Стаім мы перад будучыняй нашай" адбудзецца 24 сакавіка. Арганізатары — Саюз пісьменнікаў і Літаратурны музей Янкі Купалы.

**Літаратурны музей Якуба Коласа** ў сакавіку плануе сустрэчу з лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа за мінулы год Генрыхам Далідовічам. Дакладны тэрмін літаратурнай сустрэчы пакуль што не вызначаны. Працуе пастаянная экспазіцыя.

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча** адкрывае ў сакавіку выставу, прысвечаную 130-годдзю з дня нараджэння Адама Ягоравіча Багдановіча.

На жаль, не ўсе літаратурныя музеі на дадзены момант змаглі даць вычарпальную інфармацыю аб запланаваным на сакавік, звесткі будуць друкавацца на старонках нашай газеты дадаткова ў наступных нумарах.

**Алена РЫГОРАВА**

## З ШУФЛЯДЫ МАЙГО СТАЛА...

***Што ў мяне з першачарговых дакументаў на сакавіцкім стале? Нядаўна разбірала паперы, імкнучыся прыбраць як мага больш непатрэбнага, таго, што не патрэбна штодзень...***

Усё роўна папер і папак шмат. Наогул, я курырую манументальнае мастацтва Беларусі. Перабіраю аркушы, і мільгане іншы раз думка — які ўсплёск актыўнасці ў рэспубліцы: заявы, прапановы. З усёй Беларусі. Хачу некалькі словаў сказаць пра самы галоўны дакумент — "Інструкцыю пра будаўніцтва манументальных комплексаў, помнікаў і мемарыяльных дошак на тэрыторыі Беларусі". Ён ужо завершаны. Гэта вялікая праца, у інструкцыі асветлены ўсе найважнейшыя палажэнні для працы ў сферы манументальнага мастацтва. Нядаўна працавалі над усталяваннем помніка і мемарыяльнай дошкі для Прагі, дык там, перад тым як мы дамагліся дазволу ўсталяваць помнік, трэба было атрымаць некалькі дзесяткаў узгадненняў. Я не называю гэта бюракратыяй. Гэта — прафесійная праца. У канчатковым выніку — гэта любоў да свайго горада. І памылак у іх не будзе. А ў нас існуюць такія помнікі, пра якія лепей бы не ведаць. Спадзяюся, што інструкцыя дапаможа ўпарадкаваць гэтыя з'явы. Цяпер усе праекты, якія тычацца манументальнага мастацтва, будуць разглядацца на Дзяржаўным экспертным савеце Міністэрства культуры.

Што яшчэ? Ляжыць пратакол аб прыёмцы помніка Напалеону Ордзе ў Іванаве, што на Брэстчыне. Нядаўна выязджала з прадстаўнікамі Дзяржаўнага экспертнага савета прымаць. Спадзяюся, у траўні помнік будзе адкрыты. Былі і ў Моталі — які цудоўны там музей! Жыў чалавек, працаваў і, паміж іншым, фатаграфаваў усё навокал. Карацей, здымаў жыццё. А пайшоў — пакінуў сотні негатываў. Вочы людзей XX стагоддзя. Беларусь. Чалавек зрабіў самае важнае ў жыцці — сваёй справай ступіў у будучыню. Рэдка надараюцца такія падарункі — няма часу, няма прасторы, часта перашкаджае стомленасць позірку.

Заўтра — у Віцебск. Вось папка, матэрыялы пра мемарыяльную дошку Заіру Азгуру на будынку мастацкай школы ў Віцебску. Мяркуем разгледзець праект мемарыяльнага музея Марка Шагала. Сёлета 6 ліпеня спаўняецца 110 гадоў з дня яго нараджэння. У Нацыянальным мастацкім музеі рыхтуецца выстава ягоных літаграфій з музея М.Шагала ў Ніцы, якая затым будзе экспанавацца ў Віцебску. Мы працуем разам з дарадцам па культуры амбасады Францыі панам Франсуа Ларанам. З ім мы прапрацоўваем і некаторыя пытанні II Міжнароднага пленэру імя М.Шагала, які мяркуем правесці сёлета ў чэрвені-ліпені ў Віцебску.

Вось гэта — перапіска са Страсбургам. Першая спроба пранікнуць у структуру сучаснага мастатцва Еўропы...

Што яшчэ на стале? Штодзённая праца: перапіска, праектная дакументацыя па ўсталяванні помніка Францішку Скарыне ў Мінску, мемарыяльнай дошкі Максіму Танку, помніка Сімяону Полацкаму, новыя пастановы аб увекавечанні памяці вядомых дзеячаў культуры і навукі. Можна працягваць. Але навошта? Хутка стане тужліва ад пералічэнняў. Аднак мне не сумна — гэта ж маё будзённае жыццё.

Часам прыходзіць чалавек, піша заяву, маўляў, хачу новы помнік паставіць. Вось ідэя — давай, рабі! Не перастаю здзіўляцца (не ўслых, безумоўна), адкуль такая безадказнасць. Некаторыя дасюль перакананыя (цяжка ў гэта паверыць!), што дзяржава існуе для таго, каб здзяйсняць усе іхнія ідэі. Здзіўляе таксама неразуменне рэальнасці: ці гэта інфантыльнасць, ці няўменне мысліць?..

Ходзяць адзін за адным, а адзін аднаго не бачаць. Што ж гэта я пра сумнае? Вось у Мікалая Ісаёнка выстава персанальная адкрыецца — 11 сакавіка. Такім чынам, запрашаем усіх.

**Ірына МЯТЛІЦКАЯ,**
**вядучы спецыяліст аддзела музеяў і выставаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**



*На здымку: ганаровая варта ля дошкі Скарыне ў Празе.*

## ДЫЯЛОГІ СА СВЕТАМ

***— Што найбольш цікавае чакае нас у Доме дружбы ў сакавіку? — з такім пытаннем звярнуўся наш карэспандэнт да намесніка старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніны Сямёнаўны ІВАНОВАЙ.***

— Перш чым адказаць на гэтае пытанне, я хацела б успомніць тое, што ўжо праведзена Таварыствам на пачатку гэтага года. Гэта Дні беларускай культуры ў Мурманску. Вечарына да Дня Рэспублікі Індыя, да 90-годдзя Мірзы Кемпе, славутай латышскай паэткі, сустрэча Новага года па месяцовым календары, урачысты вечар, прысвечаны 160-годдзю з дня смерці А.Пушкіна, круглы стол па перспектывах беларуска-югаслаўскіх эканамічных, навуковых і культурных сувязяў, прэзентацыя зборніка песень С.Манюшкі на словы Я.Чачота. Не буду пералічваць усё, але адзначу перш-наперш вечар памяці А.Пушкіна, дзе ўдзельнічалі не толькі славутыя дзеячы беларускай культуры і мастацтва, але студэнты і школьнікі.

**— Я бачу на Вашым стале не толькі бюлетэнь "Кантакты і дыялогі", але і кнігу кітайскай прозы "Жыццё пасля смерці". Рыхтуецеся да новай вечарыны?**

— Прэзентацыя гэтай кнігі ў нас ужо адбылася падчас Тыдня кітайскай культуры. Дарэчы, у нас прайшла выстава кітайскага прыкладнога мастацтва, экспанаты якой, як і дакументальныя фільмы аб Кітаі, былі прадстаўлены кітайскім пасольствам і, у прыватнасці, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Кітайскай народнай рэспублікі ў Беларусі Чжао Сідзі.

**— А цяпер пра тое, што чакае нас у Таварыстве дружбы ў сакавіку...**

— 28 лютага мы адзначылі нацыянальнае свята Балгарыі, працягам якога з'явіцца 3 сакавіка набажэнства на Вайсковых могілках, дзе пахаваны беларусы, якія загінулі ў час руска-турэцкай вайны 1853-56 гг. альбо памерлі ад ран пасля яе. У той час на месцы сённяшняй царквы Аляксандра Неўскага была драўляная царква (частка якой засталася ля іканастаса), і яна нагадвае аб гераізме і самаахвярнасці нашых продкаў.

13 сакавіка павінен адбыцца адзін з канцэртаў з серыі "Музыка Літвы і Кароны", якія мы пастаянна праводзім разам з пасольствам Польшчы ў Беларусі. А да 16 сакавіка таварыства "Беларусь-Аўстрыя" рыхтуе вечар Іага Штрауса, чыя музыка жыве ў ст. годдзях і якую, мабыць, любім мы ўсе.

**В.Ф.**

## У ЧАЦВЁРТЫ РАЗ АДЗІНЫ І НЕПАЎТОРНЫ

***З 14 па 16 сакавіка пройдзе фестываль камерных драматычных спектакляў пад назвай "Маладзечанская сакавіца-97". Наш карэспандэнт звярнуўся да намесніцы старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі Антаніны Міхальцовай з пытаннямі:***

**— Назавіце, калі ласка, удзельнікаў і творы, якія будуць прадстаўлены на "Маладзечанскай сакавіцы-97".**

— Па-першае, хачу адзначыць, што сёлета падчас фестывалю гледачам будзе паказана пяць спектакляў па дзве пастаноўкі ўдзень і ўвечары. На суд гледачам і журы будуць прадстаўлены: "У прыцемках" Аляксея Дударава, пастаноўка Барыса Луцэнкі; "Крывавая Мэры" Уладзіміра Бойкі, рэжысёр Аляксандр Гарцуеў; "Непаразуменне" Альбера Камю, пастаноўшчык Юрый Ледзянкевіч; спектакль Уладзіміра Гасцюхіна "Міленькі ты мой" паводле п'есы Міхаіла Варфаламеева і "Саламея і Амаратэ" Сяргея Кавалёва, якую ажыццявіў Рыд Таліпаў на сцэне гаспадароў у маладзечанскім абласным тэатры.

**— А журы ўжо вядомае?**

— Безумоўна. Старшыня журы фестывалю — вядомы тэатральны крытык — Рычард Смольскі. У склад журы ўваходзяць: Зінаіда Браварская, Тадэвуш Кокштыс, Людміла Корхава, Марыя Захарэвіч, Юрый Сідараў, Уладзімір Лебедзеў, Вадзім Дапкюнас.

**— Што новага набыў фестываль, а ад чаго прыйшлося адмовіцца на працягу чатырох гадоў з дня яго нараджэння і па сёння?**

— Пачну са спонсараў фестывалю — фірмы "Дайнова". Яна на фестывалі пастаянны ўдзельнік. Вам не трэба тлумачыць і пра гарадскую ўладу Маладзечна, якая намагаецца захаваць тэатральнае свята і дапамагае чым можа арганізатарам фестывалю. Зразумела, што ні Міністэрства культуры, ні Саюз тэатральных дзеячаў не ў стане з-за фінансавых цяжкасцей правесці сёння мала-мальскі прыстойны тэатральны вечар, не кажучы пра такое свята. Шчыра кажучы, кожны раз пасля заканчэння фэсту я думаю, што — усё, больш не асіліць такое свята. Але кожны год знаходзяцца сілы, якія заводзяць рухавік, і Маладзечна зноў прымае гасцей.

Калі вы памятаеце, самы першы фестываль праходзіў пад дэвізам: "Гонар і слава старэйшым майстрам беларускай сцэны". Безумоўна, ад чагосьці з цягам часу прыйшлося і адмовіцца, толькі і на гэты раз арганізатары не абмінулі заслужаных імёнаў, прафесіяналаў сцэны Беларусі, і запрасілі на працу ў журы. Дарэчы, Аляксей Дудараў, як і абяцаў на першым фестывалі, урэшце напісаў п'есу. І яна будзе прадстаўлена на IV фестывалі Рускім акадэмічным тэатрам імя Горкага. Бачыце, слоў на вецер не кідаем!

**— Поспехаў Вам.**

**Наш кар.**

*Рэпліка*

## МАРА АБ АФРЫКАНСКІХ КРАКАДЗІЛАХ

***Мой сябра-паэт марыць аздобіць сваю кнігу фотаздымкамі з выявамі акул і кракадзілаў. Па яго словах, тэксты тады будуць больш выразныя і нават больш змястоўныя. А тут выпадкова даведваюся, што ў Музеі прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь зараз экспануюцца сапраўдныя акулы — тупарылыя, тыгравыя, сельдзевыя...***

Цікавасць прывяла мяне да вялікага будынка па вуліцы Карла Маркса, 12, дзе, як сведчыў надпіс, паказваюцца васковыя фігуры вядомых гістарычных асоб. Але я марыў аб акулах, таму быў расчараваны, калі ўбачыў даволі сціплую калекцыю зубоў, хаця яны і сапраўды належалі розным відам марскіх драпежнікаў. Гэты матэрыял, які не так даўно з'явіўся ў абшарах музея, — падарунак Ігара Максімчука са штата Мэрыленд, ЗША. Калі я памыліўся ў сваіх марах з акуламі, дык натуральна захацеў атрымаць задавальненне ад чагосьці іншага. Таму пацікавіўся астатнімі экспанатамі і праблемамі музея. Як высветлілася, складанасці ў дадзенай установы існуюць, і немалыя. Так, усіх залаў, пры тым невялікіх, адведзеных Музею прыроды і экалогіі — шэсць. З гэтай прычыны мінчукі не маюць магчымасці пабачыць шмат чаго дзіўнага і прыгожага, што маецца ў фондах музея ці раз'язджае па гарадах нашай краіны. Гэта, напрыклад, калекцыя матылькоў і іншай жамяры, выстава камянёў "У свеце камня", якая налічвае больш за 300 экспанатаў. Як я пачуў ад супрацоўнікаў музея, многія матэрыялы набываюцца цяпер не "за дзякуй". Наколькі я зразумеў, экспанаты ў фондах, асабліва ўсялякая жамяра і муляжы жывёлін, прыходзяць у дрэнны стан па прычынах жыццёвых...

Напрыканцы размовы, якую я, дарэчы, не фіксаваў на дыктафон і ніякім чынам не спрабаваў запісваць, спадзеючыся на сваю памяць, высветлілася, што пра праблемы музея распавядалася не для друку, а так... на ўсялякі выпадак. Маё жаданне запісаць, нарэшце, нешта ў нататнік выклікала адмоўную рэакцыю. Мне рэкамендавалі звярнуцца да кіраўніцтва музея і атрымаць дазвол на падрыхтоўку артыкула для газеты. Гэта значыць, што пісаць я магу толькі пра падараваныя зубы акул з далёкай Амерыкі.

Цяпер я хаджу з марай аб афрыканскіх кракадзілах — можа, ёсць некалькі штук у запаветных фондах?

**Зміцер ВОЛКАЎ**

## КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

# БІЛЕТ У ДЗЯЦІНСТВА

***Напрыканцы сакавіка ў Мінску намаганнямі Беларускага саюза кінематаграфістаў, Мінскага гарвыканкама і Маскоўскага кінацэнтра плануецца правядзенне фестывалю дзіцячага кіно. Як адзначана ў праграме новага фэсту, яго мэта — адраджэнне добрай традыцыі, калі юныя гледачы ў дні веснавых школьных канікул станавіліся ўдзельнікамі кінематаграфічных святаў.***

Сярод страчаных традыцый і мастацкіх тэндэнцый былога савецкага кінематографа адыход ад "дзіцячага кіно" здаецца самым неразумным. Нават па праграме гэтага фестывалю адчуваецца, што ў айчынным кінематографе яшчэ не з'явіліся новыя Фрэзы, Роу і Птушко. І ў гэтым спісе, зразумела, нельга не назваць імёны беларускіх майстроў жанру: Льва Голуба, Леаніда Нячаева...

Дарэчы, кінафестываль павінен стаць не толькі святам для сваіх гледачоў, але своеасаблівай творчай справаздачай за мінулыя гады і нагодай для роздуму.

Наша кінастудыя "Беларусьфільм" у конкурсную праграму прадстаўляе стужкі: "Вогненны стралок" (аўтар сцэнара М.Шэлехаў, рэжысёр М.Князеў) і "Шэльма", якую знялі маладыя рэжысёры-дэбютанты А.Ганчаронак і І.Чацверыкоў. Не закранаючы мастацкіх якасцей гэтых работ, будзем лічыць іх пераходнымі на этапе ўзнаўлення дастаткова высокіх традыцый беларускага кінематографа для дзяцей. Магчыма, наступныя фільмы пакажуць, наколькі выпадковымі або заканамернымі былі гэтыя фільмы.

А наогул у праграме фестывалю не вельмі шмат стужак з розных студый СНД. Фаварытам фэсту пакуль з'яўляецца кінастужка "Кацяня" рэжысёра І.Папова, якая ўжо атрымала прыз расійскай кінапрэсы за лепшы дэбют у 1996 годзе.

У рамках фестывалю адбудзецца і рэтраспектыўны паказ стужак беларускіх кінематаграфістаў. Плануецца правесці святочны юбілейны сеанс кінастужкі "Іван Макаравіч". Славутаму фільму Ігара Міхайлавіча Дабралюбава споўнілася 30 гадоў. Стужка атрымала шмат узнагарод, сярод якіх — прэміі на МКФ у Венецыі і Усесаюзным кінафестывалі і такая экзатычная ўзнагарода, як прэмія Ленінскага камсамола Беларусі.

У свой час рэжысёра нават папракалі ў другаснасці і перайманні славутага "Іванавага дзяцінства" Андрэя Таркоўскага. А зараз гэта называецца — развіццё тэндэнцыі. Ва ўсялякім разе, гісторыя падлетка, які вымушана становіцца дарослым і ў лёсе якога — адбітак асабістага лёсу рэжысёра, не можа не закрануць сучасных тынэйджэраў. Можа атрымацца, што менавіта 30-гадовы "Іван Макаравіч" будзе найбольш адпавядаць падлеткам 90-х.

**Г.Ш.**

# І ФІНАНСЫ ПЯЮЦЬ РАМАНСЫ?

***Хутка праляцелі два першыя зімовыя месяцы 97-га. І вось мы ўжо на парозе вясны: сакавік упарта заяўляе свае правы, і мы з вамі жывем у прадчуванні значных перамен у прыродзе, а значыць, і ва ўсім нашым жыцці.***

Згодна з календаром, дзе 8 сакавіка па-ранейшаму лічыцца першым і самым яркім святам вясны, складаюцца праграмы творчых саюзаў у нашай сталіцы. Акурат на 7 сакавіка запланаваны святочны вечар, што рыхтуе Саюз кампазітараў Беларусі. Няцяжка здагадацца, што прысвечаны ён Дню жанчын, а праграму яго складаюць песні на музыку Ігара Лучанка, Уладзіміра Будніка і іншых беларускіх кампазітараў. Уладзімір Дарохін, намеснік старшыні СК, так каментуе работу творчага саюза ў сакавіку: "На сакавік у нас запланаваны пасяджэнні секцый і прыём у Саюз маладых кампазітараў. А ўвогуле сёлета ў лістападзе месяцы адбудзецца чарговы з'езд Саюза кампазітараў. Падрыхтоўку да яго мы пачалі ўжо цяпер. Прайшоў пэўны перыяд, за які можна падвесці вынікі. Сёння гэта ўжо зусім не той Саюз кампазітараў, што быў некалькі гадоў таму. За гэты час многае змянілася, дзейнасць Саюза вызначаецца шэрагам умоў, але асноўнае гэта тое, што тут сабраліся творчыя людзі, здольныя вырашыць пытанні на належным узроўні".

З такімі пытаннямі — што ў сакавіцкай праграме і якія складанасці ў рабоце — мы звярнуліся да дырэктара філармоніі Уладзіміра Пятровіча Ратабыльскага. "У гэты складаны час, — адказаў ён, — у нас праходзіць шмат канцэртаў з удзелам замежных выканаўцаў. І, безумоўна, ім трэба плаціць і плаціць валютай. Паўстае пытанне, дзе знайсці фундатараў. У хуткім часе нас наведаюць зоркі венскай оперы. Гэта зноў-такі абавязвае, а фундатараў пастаянных мы не маем, калі яны і надараюцца, дык выпадкова. Праблема фінансавая — гэта асноўная праблема. На сённяшні дзень мы не маем адзінага зацверджанага фінансавага плана, і гэта стварае пэўныя цяжкасці ў працы філармоніі. Самай адметнай падзеяй у сакавіку я лічу прыезд да нас замежнага дырыжора, якога мы запрашаем у якасці галоўнага дырыжора Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра філармоніі. Міша Кац прыязджае да нас на другі тэрмін, і мы рады, што такі вядомы і таленавіты чалавек будзе доўгі час працаваць у Мінску".

А наогул у сакавіку мінчане змогуць наведаць філармонію, дзе пачуюць камерны мужчынскі хор "Унія" (1 сакавіка), паслухаць музыку Бетховена, Шуберта, Шапэна — вечарам 4 сакавіка, пабываць на канцэрце Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра, дзе салістам будзе лаўрэат Міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-96" Андрэй Сікорскі (6 сакавіка); паслухаць музыку Баха, Моцарта, Гайдна ў выкананні Камернага аркестра Рэспублікі Беларусь (9 сакавіка); канцэрт сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі можна наведаць 12 сакавіка.

Зала камернай музыкі (касцёл святога Роха, Залатая горка) запрашае прыхільнікаў вакальнай музыкі 1 сакавіка (у праграме Рахманінаў, Пракоф'еў); канцэрт фартэпіяннай музыкі, дзе ансамбль салістаў выканае творы Расіні, Бізэ, Глінкі, адбудзецца 4 сакавіка; канцэрт арганнай музыкі можна наведаць 6 сакавіка. Ну, а 7 сакавіка, у перадсвяточны дзень, у зале камернай музыкі адбудзецца літаратурна-музычная вечарына, дзе будуць гучаць пранікнёныя лірычныя паэтычныя радкі, прысвечаныя нашым жанчынам, і сугучная ім музыка Свірыдава, Глінкі, Рахманінава.

Беларуская акадэмія музыкі таксама мае сваю разнастайную і цікавую праграму на сакавік. Ларыса Іванова, рэжысёр канцэртнай залы Акадэміі, была даволі стрыманай у адказах на пытанні: "Праблем мноства, іх не пералічыць і не пераказаць". Сапраўды, гэта адзнака нашага часу — праблем усё больш і больш, і кожны наступны дзень іх чамусьці не вырашае, а дадае ўсё новыя і новыя. Але тым не менш у канцэртнай зале Акадэміі музыкі акурат у сакавіку можна бузе паслухаць канцэрт студэнтаў аддзялення народных інструментаў, 5 і 19 сакавіка маюцца адбыцца канцэрты фартэпіяннай музыкі, 15 сакавіка адбудзецца канцэрт музыкі канца XIX — пачатку XX стагоддзя, 16 сакавіка пачнецца конкурс імя Шумана.

Напрыканцы агляду застаецца толькі дадаць, што вышэй азначаныя музычныя ўстановы актыўна рыхтуюцца да правядзення чарговай "Мінскай вясны", якая будзе праходзіць у красавіку.

**Алена РЫГОРАВА**

*Ад першай асобы*

# ВЯРТАННЕ ІГАРА ПАЛІВОДЫ

***У першы дзень вясны, 1 сакавіка, у сталічнай філармоніі адбудзецца дабрачынны канцэрт памяці Ігара Паліводы. Менавіта ў гэты дзень год таму Беларусь развіталася са сваім музыкам. Канцэрт "У першы дзень вясны", падрыхтаваны ўдавой Вольгай ПАЛІВОДАЙ, будзе яго вяртаннем да сваіх слухачоў і сяброў.***

— Не-правядзенне гэтага канцэрта было б ненатуральным, — кажа Вольга Палівода. — Ігар быў такім сціплым пры жыцці, што пасля яго адыходу засталася белая пляма — у душах сяброў, у музыцы. Яго любілі і паважалі ўсе, зараз, пры падрыхтоўцы канцэрта, я ў гэтым пераканалася яшчэ раз. Імя Ігара адчыняла для мяне ўсе дзверы. У творчым плане праблемаў у мяне не было. А дзякуючы Генадзю Шульману з мінскага "Клас-Клуба", і арганізацыйных праблемаў стала значна менш.

Канцэрт дабрачынны, гэта значыць, сродкі ад яго правядзення пойдуць для ўшанавання памяці Ігара: будзе выдадзены зборнік ягоных песень, выпушчаны магніта-альбом. Сродкі таксама пойдуць на яго помнік на Паўночных могілках — ён памёр амаль што ў галечы. Мы і ўвогуле жылі цяжка. Мы сустрэліся ў такі пераломны час, у час "перабудовы", калі ўсё абрынулася. Абодва былі ўжо сталымі людзьмі, пакінуўшымі за спіной значную частку жыцця, такі-сякі дабрабыт. Адбудаваць усё нанова на кампазітарскі заробак у наш час вельмі складана.

Найбольш яскравай асаблівасцю яго асобы была парадаксальнасць. Усе антонімы, якія існуюць, можна было б прыкласці да яго. Ён мог быць бясконца велікадушным — і цвёрдым, нават жорсткім. Ягоная дасціпнасць і абаянне былі агульнавядомыя — а часамі ён не размаўляў па сутках, і я нават баялася да яго падыходзіць. Ён заўсёды шмат працаваў — і меў славу "гулякі". Зараз, калі я нарэшце пачала разбіраць ягоны архіў — раней не магла, бо было цяжка да гэтага дакранацца, — я думаю: калі ж у яго хапіла часу ўсё гэта зрабіць? Мне здаецца, калі Бог адорвае чалавека геніяльнасцю, да яго таксама цягнуцца цёмныя сілы. І ўсё жыццё ідзе гэтае змаганне за душу генія.

Тое, што Ігар быў геніяльны, для мяне несумненна. Гэта ў ім было прыкметна ад маленства. Ён двойчы скончыў кансерваторыю. У першы раз - як піяніст, і зусім нядрэнны, быў лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу. Калі ён пачаў працаваць у "Песнярах", менавіта яго "класічная яснасць" падняла ўзровень ансамбля да прафесійнага гучання. Там ён шмат зрабіў як аранжыроўшчык, там напісаў сваю першую праграму "Вясёлыя Жабракі" на словы Роберта Бернса. На жаль, праграму забаранілі — яна з'явілася ў самы пік "барацьбы з п'янствам", а ў Бернса хіба ці не ў кожным радку запрашэнне да выпіўкі. Дарэчы, зараз нехта з "Песняроў" спрабуе выпусціць кампактдыск з гэтай праграмай, бо ў свой час быў зроблены рэпетыцыйны запіс.

Відавочна, што гэтая праца падштурхнула Ігара да рашэння стаць прафесійным кампазітарам. Ён у другі раз паступае ў кансерваторыю, і ў 1988 годзе заканчвае яе па класе прафесара Дзмітрыя Смольскага. Ад гэтай пары ён ужо амаль не працуе, як выканаўца-клавішнік. У 1989 годзе пераходзіць з "Песняроў" у аркестр Міхаіла Фінберга. Працаваў і ў "малым складзе" аркестра, побач з Барысам Бернштэйнам, Уладзімірам Ткачэнкам, але галоўным сваім заняткам лічыў кампазіцыю і аранжыроўкі. Да фестываляў у Маладзечне Ігар ствараў штогод па праграме — і якія гэта былі праграмы! 1992 год — поп-опера "Максім" на словы Максіма Багдановіча. Праз год — "Беларушчына" на вершы Янкі Купалы, невядомыя вершы, якія прывёз аднекуль з Амерыкі Лёня Пранчак. Яшчэ праз год з'явіўся "Матчын спеў" паводле вершаў Аркадзя Куляшова. І апошняя праграма, якая засталася не выкананай, — "Нёман" на народныя словы. Я падлічыла, што Ігар з'яўляецца аўтарам не менш як 70 песень. Ён працаваў з большасцю вядомых беларускіх паэтаў: Нілам Гілевічам, Генадзем Бураўкіным, Рыгорам Барадуліным. Найбольш удалыя свае песні ён стварыў хіба з Леанідам Пранчаком. У Лёні добрыя пранікнёныя лірычныя тэксты, якія добра клаліся на пранікнёную ж вельмі добрую музыку Ігара. Што да аранжыровак, то да яго звярталіся Эдуард Зарыцкі, Леанід Захлеўны, Уладзімір Буднік, Ігар Лучанок. Аранжыроўкі ў яго былі такія, што эстрадная песня гучала, як сімфонія. Ён уводзіў усе інструменты, што былі ў складзе аркестра Фінберга, аж да арфы. Ён лёгка пісаў музыку, калі верш яго закранаў. І потым рупліва выпісваў партытуру, "покуль вочы не вылазілі". Апрача эстраднай музыкі, ён аўтар канцэрта для фартэпіяна з аркестрам, скерца для духавых інструментаў, санат, прэлюдый. Лаўрэат міжнароднага конкурсу Алег Крымер адну з іх выканае на канцэрце. Аднак "класікі" Ігар пісаў не шмат, хацеў, каб яго музыку слухала больш людзей.

Калі садзіўся пісаць, ён запальваў свечку — я нават падарыла неяк яму бронзавы падсвечнік. Потым замест свечкі з'явілася лампадка. Ігар быў веруючым чалавекам, але ішоў да Бога доўга, ахрысціўся толькі ва ўзросце 37 гадоў. А калі мы ажаніліся, то прапанаваў абвянчацца. Я нават збянтэжылася, запыталася: "Ты ўпэўнены, што гэта нам патрэбна? Гэта ж назаўсёды?" "Упэўнены",- быў адказ. Біблія была яго настольнай кнігай, ён сам пераплёў яе ў чырвонае, такую ж зрабіў і для мяне. Увогуле ён сароме ўся рабіць падарункі, выказваць пачуцці. Але часам гэта прарывалася. Мяне ён кахаў у канцы жыцця ўсё мацней. Казаў: "Дзіву даюся, іду на сустрэчу з уласнай жонкай у сорак гадоў, як 17-гадовы юнак". У нас жыццё было дзіўным, я разрывалася паміж двума дамамі, дачка часам жыла са сваім бацькам, бо калі Ігару трэба было працаваць, у ягонай аднапакаёўцы нам было цесна. І таму часта спатканні ў нас атрымліваліся дзе-небудзь у горадзе. Мы гулялі ў скверах, гойдаліся на арэлях, пілі піва. Ігар казаў: "Ніхто не паверыць, гледзячы на нас, што мы муж і жонка, скажуць — палюбоўнікі". У апошнія месяцы мы многа смяяліся, усе ўтрох. Пад канец жыцця ён ужо добра разумеў маю дачку, лічыў за сваю, яму зрабілася з ёй цікава. Уля зараз кажа: "Часам ён мне прызнаваўся — якая добрая ў нас з табой маці!". Хаця напачатку яны ніяк не маглі мяне падзяліць. Мне з Ігарам заўсёды было лёгка. Мы маглі гадзінамі проста размаўляць. Але ўвогуле ён быў апанаваны моцнымі страсцямі, працаваць — дык працаваць, гуляць — дык гуляць. Многа паліў, піў вельмі моцную каву. Калі пачаліся праблемы са здароўем, я спрабавала яго стрымаць, сама кінула паліць, каб ён паліў менш. Але ён лічыў: што наканавана, павінна здарыцца. "Кава павінна быць кавай, а Палівода, які не паліць і не п'е — гэта ўжо зусім іншы чалавек". Ён піў, як сцвярджаў, каб трохі адпачыць ад музыкі, што бясконца гучала ў галаве.

Ён прадчуваў свой адыход, часам казаў: "Калі памру, ты напішаш пра мне, мая Жорж Санд?" Гэта павялося ад нашага першага Новага Года. На самым пачатку знаёмства мы зрабілі адзін аднаму падарункі, не згаворваючыся.



Ён прынёс мне том Марыны Цвятаевай — маёй любімай паэтэсы, хаця я ніколі яму аб тым не казала. А я падарыла яму біяграфію Жорж Санд. І сказала: "Звярніце ўвагу на іх адносіны з Шапэнам". З той пары ён часам называў мяне "мая Жорж Санд". А кнігу пра Ігара я абавязкова напішу, калі хопіць здароў'я. Ніхто не ведаў яго лепш за мяне, ні з кім ён не быў да такой ступені шчырым. Але прадбачу, што пасля з'яўлення гэтай кнігі мне прыйдзецца адсюль паехаць. Бо ў гэтай кнізе я не змагу не сказаць усёй праўды. А праўда для многіх будзе непрыемнай. Гэта не значыць, што я стараюся зрабіць з яго пакутніка, ён сам казаў, не трэба гэтага. Але калі таленавіты чалавек памірае ў 45 гадоў, гэта не ад п'янства. Гэта — трагічны адыход, вынік незапатрабаванасці, эмацыйнай перагружанасці. Калі пасля аўтарскага вечара ён пайшоў з аркестра Міхаіла Фінберга, усе аб гэтым ведалі. І ніхто за тры месяцы не паклікаў яго, не прапанаваў дапамогу. Ён тады казаў: "Відаць, я са сваёй музыкай нікому не патрэбны. А іншую пісаць не магу і не жадаю".

За чатыры дні да смерці Ігар пайшоў да свайго духоўнага бацькі — Ігара Карастылёва, выспаведаўся і прычасціўся. Гэта было 24 лютага, ён нават не святкаваў напярэдадні "мужчынскае свята". А потым сядзеў за сталом ціхі і шчаслівы. Для веруючага гэта сапраўды многа значыць.

Я не магу нікога дакараць: калі здарыўся з Ігарам сардэчны прыступ, было зроблена ўсё, каб вярнуць яго да жыцця. Але Бог усё ж прыбраў яго. Як высветлілася, у Ігара была невылечная хвароба сэрца — кардыяміяпатыя. А зацягнуць яго да ўрачоў было немагчыма.

Я папраўдзе стала верыць у Бога менавіта пасля смерці Ігара. Калі труна з яго целам стаяла ў Саюзе кампазітараў, для мяне яна была як бы пустая. Я адчувала прысутнасць Ігара недзе ўверсе, патыліцай. А потым пачаліся ўвогуле дзіўныя рэчы. На дзевяты дзень на падваконні ў мяне селі голуб і галубка — а ў Ігара адна з найбольш пранікілвых і ягоных любімых песень — "Сівы голуб". І да саракавога дня гэтая пара галубоў прылятала да мяне. А у саракавіцу знікла.

Потым, калі я злягла, у нас не стала грошай. І якраз на сем месяцаў з дня смерці мне не было на што купіць кветак на магілу. Раптам аказалася, што прыйшлі грошы — аўтарскія, якія я перад тым афарміла на сябе і Валодзю, сына Ігара. Дачка тады прамовіла: "Ён і зараз аб нас клапоціцца". Я да гэтай пары адчуваю, што Ігар са мной, ён не адпускае маю душу.

Гэты канцэрт, на маю думку, павінен быць не такім, якім быў той адзіны аўтарскі вечар, што падрыхтаваў Міхаіл Фінберг. Дзякуй яму за тое, але тады са сцэны гучалі "нон-стоп" песні — і ўсё на гэтым. Асоба кампазітара, менавіта асоба, засталася непаказаная Зараз у канцэрце павінны прагучаць не толькі песні, фартэпіянныя творы Ігара, але і ўспаміны аб ім як аб асобе. Аб ім, аб яго асабовасці будзе і мая кніга "Пяты вугал Ігара Паліводы" паводле ягоных і маіх дзённікаў. ("Пяты вугал" — так называлася адна з джазавых кампазіцый Ігара.)

Дарэчы, у "Песнярах" Ігар выпускаў гумарыстычную газету "Ведамасць", якую памятаюць да гэтай пары. А сярод яго дзённікаў ёсць кніга ў лістах ад ягонага дзеда пад назвай "Мемуары Пятра Паліводы". Ён быў апроч усяго выдатны "графаман", сачыніў і "выдаў" у адным экземпляры навукова-фантастычны раман "Радасць" у трох тамах, з уласнымі ілюстрацыямі. Калі мне асабліва кепска, я адкрываю яго, дзіўлюся палёту яго фантазіі, і настрой уздымаецца. Усе гэтыя рэчы будуць прадстаўлены на выставе ў фае ў вечар канцэрта. Там жа будзе прадавацца зборнік ягоных песень і кампакткасеты з іх запісамі.

А спяваць і іграць будуць Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Валерый Дайнека, Алег Цівуноў, Якаў Навуменка, камерны хор Ігара Мацюхова, Іна Афанасьева, Алег Крымер, шмат іншых выканаўцаў. Усім артыстам, хто пажадаў, я раздала песні Ігара, каб іх не забывалі. Мне б хацелася, каб канцэрт "У першы дзень вясны" з твораў Ігара праходзіў штогод.

**P.S. Для тых, хто хацеў бы дапамагчы захаванню творчай спадчыны Ігара Паліводы, прыводзім нумар разліковага рахунка: Р/р 01038167 у ААБ "Беларусбанк", філіял 508, аддзяленне 175.**

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**

# КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## КАЛЯНДАР ТРАДЫЦЫЙНЫХ ФЕСТЫВАЛЯЎ І СВЯТАЎ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА ЎСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

### САКАВІК

**Міжнародны конкурс "Музыка надзеі"**
*Сакавік — чэрвень, г.Гомель,*
Прымаюць удзел маладыя музыканты Гомеля, Магілёва, Мінска, Бранска, Чарнігава
Упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкома: (8-023-2) 53-41-52
Гомельскі каледж мастацтваў: (8-023-2) 53-73-30

**Рэспубліканскі фестываль тэатральнага мастацтва**
*г.Магілёў*
Прымаюць удзел прафесійныя і народныя самадзейныя тэатры
Упраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкома: (8-022-2) 25-83-11
Абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці: (8-022-2) 25-85-29

**Абласны фестываль дзіцячай творчасці**
*Сакавік — красавік, г.Віцебск*
Прымаюць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці ўстаноў культуры і дзіцячых музычных школ
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкома: (8-021-2) 37-03-63

**Абласны фестываль танца "Феерверк танца"**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел калектывы і выканаўцы спартыўнага і бальнага танца
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома: (8-021-2) 37-62-15
Абласная філармонія: (8-021-2) 37-36-34

**Абласны фестываль аматарскіх тэатраў "Тэатральная вясна-97"**
*г.Віцебск*
Віцебскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-021-2) 36-43-64

**Абласны фестываль дзіцячых тэатральных калектываў "Чароўны куфэрак"**
*г.Любань, Мінская вобласць*
Аддзел культуры Любанскага райвыканкома: (8-294) 5-55-45

**Гарадскі фестываль мастацкай самадзейнасці "Калейдаскоп талентаў"**
*г.Бабруйск, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы ўстаноў культуры і навучальных устаноў
Аддзел культуры Бабруйскага гарвыканкома: (8-022-51) 7-21-14

**Гарадскі фестываль народнай творчасці "Сузор'е":**
**1.** Свята народнай песні "Вытокі"
*1 — 2 сакавіка, г.Мінск,* Рэспубліканскі Палац культуры прафсаюзаў
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы, хары народнай песні са званнем "народны самадзейны калектыў"
**2.** Свята дзіцячага харавога мастацтва "Вясновы капеж"
*16 сакавіка, 6 красавіка, г.Мінск,* Палац культуры трактарнага завода
Прымаюць удзел "узорныя" самадзейныя калектывы
**3.** Свята духавой і эстраднай музыкі "Камертон"
*22 — 23 сакавіка, г.Мінск,* Палац культуры чыгуначнікаў
Прымаюць удзел "народныя" і "ўзорныя" самадзейныя калектывы
**4.** Свята тэатраў малых формаў
*22 — 23 сакавіка, г.Мінск,* клуб медыцынскага універсітэта
Прымаюць удзел "народныя" і "ўзорныя" самадзейныя калектывы
**5.** Свята вакальнай і інструментальнай народнай музыкі
*30 сакавіка, г.Мінск,* Палац культуры камвольнага камбіната
Прымаюць удзел "народныя" і "ўзорныя" самадзейныя калектывы
Мінскі арганізацыйна-метадычны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 233-37-18, 233-13-36

**Раённы фестываль тэатральнага мастацтва "Тэатральная вясна-97"**
*г.п.Бялынічы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел народныя тэатры юнага гледача, драматычныя гурткі
Аддзел культуры Бялыніцкага райвыканкома: (8-022-32) 2-18-57

**Раённы фестываль эстраднай песні "Горацкая зорачка"**
*г.п.Горкі, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел дзіцячыя калектывы, асобныя выканаўцы
Аддзел культурыГорацкага райвыканкома: (8-022-33) 2-24-81

**Раённы фестываль дзіцячай творчасці "Пяро Жар-Птушкі"**
*г.Крычаў, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы ўстаноў культуры, навучальных устаноў, дзіцячых мастацкіх школ
Аддзел культуры Крычаўскага райвыканкома: (8-022-41) 2-15-45

### КРАСАВІК

**Абласное свята Ратушы**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел навукоўцы, мастакі
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома: (8-021-2) 37-62-15

**Гарадскі фестываль "Песні юнацтва нашых бацькоў"**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел выканаўцы эстраднай песні
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкома: (8-021-2) 37-03-63

**Гарадскія святы-агляды аматарскіх аб'яднанняў "Свет нашых захапленняў"**
*Красавік — чэрвень, гарады Брэсцкай вобласці*
Прымаюць удзел аматарскія аб'яднанні, клубы па інтарэсах
Аддзелы культуры гаррайвыканкомаў

**Свята "Веснавы карагод"**
*12 — 13 красавіка, г.Мінск, Палац культуры АА "Сукно"*
Прымаюць удзел "народныя" і "ўзорныя" харэаграфічныя калектывы
Мінскі гарадскі арганізацыйна-метадычны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 233-37-18

**Конкурс чытальнікаў**
*19 — 20 красавіка, г.Мінск, Дом літаратара*
Мінскі гарадскі арганізацыйна-метадычны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 233-37-18

**Раённы фестываль народнай музыкі і песні "Мелодыі і фарбы Бялыніцкага краю"**
*г.п.Бялынічы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел самадзейныя калектывы ўстаноў культуры
Аддзел культуры Бялыніцкага райвыканкома: (8-022-32) 2-18-57

**Раённае свята "Вялікдзень"**
*14 красавіка, г.Быхаў, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы ўстаноў культуры
Аддзел культуры Быхаўскага райвыканкома: (8-022-31) 2-27-65

**Раённае свята "Велікодныя біткі"**
*14 красавіка, г.п.Клімавічы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы ўстаноў культуры
Аддзел культуры Клімавіцкага райвыканкома: (8-022-44) 2-12-68

**Раённае свята "Велікодныя ігрышчы"**
*14 красавіка, г.п.Краснаполле, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы ўстаноў культуры
Аддзел культуры Краснапольскага райвыканкома: (8-022-38) 2-15-45

**Раённы фестываль гумару**
*г.п.Чавусы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел асобныя выканаўцы і мастацкія калектывы
Аддзел культуры Чавускага райвыканкома: (8-022-42) 2-23-54

*(Працяг будзе)*

## NON-STOP, НЯЎРЫМСЛІВЫЯ!

***Акурат на сакавік прыпадаюць асноўныя мерапрыемствы гарадскога фестывалю народнай творчасці "Сузор'е-97", які ўжо распачаў сваю работу напрыканцы лютага. З гэтай нагоды адбылася сустрэча нашага карэспандэнта з дырэктарам Мінскага арганізацыйна-метадычнага цэнтра народнай творчасці Мікалаем АГАРОДНІКАВЫМ.***

**— Мікалай Пракопавіч, якая мэта фестывалю, хто яго арганізатары?**

— Фестываль народнай творчасці "Сузор'е" ўжо стаў для мінчан традыцыйным. Ён праводзіцца адзін раз у тры гады з мэтай актывізацыі творчай і грамадскай дзейнасці калектываў народнай творчасці Мінска, пашырэння іх рэпертуару творамі беларускіх кампазітараў, паэтаў, драматургаў.

**— Ці ўсе ўдзельнікі мінулага фестывалю прымаюць удзел у сёлетнім?**

— Амаль што ўсе. Але зазначу, што не ўсе народныя ансамблі ў сённяшніх складаных умовах змаглі захаваць званне "Народны". Для ганаравання гэтым званнем асноўная перадумова — дзейнасць ансамбля, а ў такіх эканамічных варунках грошы нам выдзяляюцца ашчадна, падтрымліваць фінансава калектывы мы не можам, і некаторыя распадаюцца.

**— Аднак усё ж такі большасць народных калектываў захавалася...**

— Дзякуючы энтузіязму творчых кіраўнікоў. І там, дзе кіраўнік — асоба яркая, якая прыцягвае да сябе ўдзельнікаў, а такіх у нас вельмі многа, там калектывы захаваліся і дзейнічаюць.

**— Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра сакавіцкую праграму фестывалю.**

— На пачатку сакавіка адбудуцца конкурсныя выступленні хароў народнай песні на пацвярджэнне наймення "народны" і "ўзорны". 1 і 2 сакавіка ў Палацы культуры прафсаюзаў выступаюць народныя хары "Радуйся" дзяржпрадпрыемства "МЗОР", Палаца культуры "Аўтазаводзец", "Жыцень" Дома культуры НВА "Інтэграл", таксама выступяць цікавыя фальклорныя ансамблі "Пасядзелкі", "Забава" СШ № 190, "Жалейка" падлеткавага клуба "Калейдаскоп" МЗВТ і іншыя.

16 сакавіка ў Палацы культуры "Аўтазаводзец" а 10-й гадзіне пачнецца свята дзіцячага харавога мастацтва "Веснавы капеж". Чакаюцца выступленні таленавітых дзіцячых хароў "Дружба" СШ № 1, "Пунсовыя ветразі" СШ № 13, "Элегія" СШ № 43.

22 і 23 сакавіка Палац культуры тэкстыльшчыкаў запросіць мінчан на свята духавой і эстраднай музыкі. Тыя, хто прыйдзе на свята, пачуюць духавыя аркестры "Ліра", ансамбль скрыпачоў Беларускай політэхнічнай акадэміі "Рымшот" і іншыя цікавыя ансамблі, якія вызначаюцца сваёй адметнай творчай манерай выканання.

Напрыканцы сакавіка — 30 — 31 тамсама, у Палацы культуры камвольнага камбіната будзе праходзіць свята вакальнай і інструментальнай музыкі. Зазначу, што сакавіцкая праграма фестывалю самая цікавая і насычаная.

**— Многія з мінчан, безумоўна ж, наведаюць фестывальныя святы і самі пераканаюцца ў гэтым.**

**Гутарыла Алена РЫГОРАВА**



Вось ужо пяць гадоў працуе ў Салігорскай сярэдняй школе № 5 фальклорны калектыў пад кіраўніцтвам выпускніцы Мінскага інстытута культуры Зоі Кайко. Калектыў вялікі, дружны, улюбёны ў народныя песні і танцы. Гэтаму спрыяе і тое, што сярод педагогаў шмат музыкантаў, людзей з добрым голасам, якія спяваюць на сцэне разам з дзецьмі. Сярод іх настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Анатоль Качанаў і Тамара Бойка, дырэктар школы Валянціна Ястраб і іншыя. Энтузіязм дарослых падтрымліваюць навучэнцы, і кожнае выступленне калектыву робіцца сапраўдным святам. Менавіта такімі былі святкаванне Купалля і Каляд. Але асабліва запомнілася ўсім свята "Бацькоўская хата — усяму пачатак".

*На здымку: юныя ўдзельнікі фальклорнага калектыву.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

## ПАЛАЖЭННЕ

### аб фестывалі народнай творчасці "СУЗОР'Е" горада-героя Мінска (люты — снежань 1997 года)

*Фестываль "Сузор'е" праводзіцца з мэтай актывізацыі творчай і грамадскай дзейнасці калектываў народнай творчасці горада-героя Мінска незалежна ад ведамаснай прыналежнасці; пашырэння іх рэпертуараў творамі беларускіх кампазітараў, паэтаў, драматургаў; павышэння мастацкага ўзроўню выканаўцаў; прапаганды і папулярызацыі іх працы.*

*Фестываль праводзіцца ў тры этапы:*

***І ЭТАП. Агляды-конкурсы калектываў народнай творчасці на пацвярджэнне ганаровага наймення "Народны", "Узорны" калектыў:***

— Свята акадэмічнай песні, прысвечанае 105-годдзю з дня нараджэння Р.Р.Шырмы. Конкурсныя выступленні на пацвярджэнне наймення "Народны калектыў";

*22 —23 лютага, Рэспубліканскі Палац культуры аўтазавода*

— Свята народнай песні "Вытокі". Конкурсныя выступленні фальклорных калектываў, хароў народнай песні на пацвярджэнне наймення "Народны калектыў";

*1 — 2 сакавіка, Палац культуры прафсаюзаў.*

— Свята дзіцячага харавога мастацтва "Веснавы капеж". Конкурсныя выступленні дзіцячых хароў на пацвярджэнне наймення "Узорны";

*16 сакавіка, 6 красавіка, Палац культуры аўтазавоода.*

— Свята духавой і эстраднай музыкі "Камертон". Конкурсныя выступленні духавых і эстрадных аркестраў на пацвярджэнне наймення "Народны" і "Узорны" калектыў;

*22 — 23 сакавіка, Палац культуры камвольнага камбіната.*

— Свята вакальнай і інструментальнай народнай музыкі, конкурсныя выступленні аркестраў на пацвярджэнне наймення "Народны" і "Узорны" калектыў;

*30 — 31 сакавіка, Палац культуры камвольнага камбіната.*

— Свята "Веснавы карагод". Конкурсныя выступленні харэаграфічных калектываў на пацвярджэнне наймення "Народны" і "Узорны" калектыў;

*12 — 13 красавіка, Палац культуры аўтазавода,*

*19 — 20 красавіка, Палац культуры аўтазавода.*

— Прагляд лялечных тэатраў на пацвярджэнне наймення "Узорны" калектыў;

*15 — 16 лютага, Гарадскі палац дзяцей і моладзі.*

— Прагляд тэатраў малых форм на пацвярджэнне наймення "Народны" і "Узорны" калектыў;

*22 — 23 сакавіка, Клуб медыцынскага універсітэта.*

— "Тэатральныя сустрэчы". Прагляд спектакляў народных тэатраў на іх пляцоўках. (Па асабістым графіку);

*Студзень-май.*

— Конкурс чытальнікаў;

*18 — 19 кастрычніка, Дом літаратара.*

— Выстава самадзейных мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва горада. (Папярэдне на працягу студзеня-сакавіка праводзяцца выставы ў студыях на пацвярджэнне ганаровага наймення "Народны");

*Май*

Адказныя: Упраўленне культуры, Упраўленне адукацыі, Арганізацыйна-метадычны Цэнтр народнай творчасці, клубныя, школьныя, навучальныя ўстановы.

***ІІ ЭТАП. "Народныя" і "Узорныя" калектывы народнай творчасці прымаюць удзел у свяце горада.***

Адказныя: Арганізацыйна-метадычны Цэнтр народнай творчасці, клубныя, школьныя, навучальныя ўстановы.

***ІІІ ЭТАП. Дні народнай творчасці раёнаў горада. (Заключныя канцэрты раёнаў горада).***

Заводскі — 19 кастрычніка.
Ленінскі — 26 кастрычніка.
Маскоўскі — 2 лістапада.
Кастрычніцкі — 9 лістапада.
Партызанскі — 16 лістапада.
Першамайскі — 23 лістапада.
Савецкі — 30 лістапада.
Фрунзенскі — 7 снежня.
Цэнтральны — 14 снежня.

Адказныя: Адміністрацыі раёнаў горада, Арганізацыйна-метадычны Цэнтр народнай творчасці.

Заўвага: у раёнах горада ў межах фестывалю могуць быць праведзены агляды, конкурсы, якія будуць завяршацца заключным канцэртам.

***Умовы ўдзелу ў фестывалі.***

У фестывалі ўдзел "Народных", "Узорных" калектываў народнай творчасці з'яўляецца абавязковым. Па выніках прагляду калектыву выдаецца пасведчанне аб пацвярджэнні ганаровага наймення.

Калектыў, які не возьме ўдзелу ў фестывалі без важкіх прычын, пазбаўляецца наймення "Народны", "Узорны". (Палажэнне аб "Народным", "Узорным" самадзейным калектыве. Пастанова Калегіі Міністэрства культуры № 3/22 ад 13.03.1992 года).

Калектывы на агляд-конкурс прадстаўляюць праграмы працягласцю:

— акадэмічныя хары — 40 хвілін (не менш за 6 твораў без суправаджэння);

— хары народнай песні, фальклорныя ансамблі — 40 хвілін (не менш за 4 творы без суправаджэння);

— вакальныя ансамблі — 30 хвілін (не менш за 4 творы без суправаджэння);

— дзіцячыя харавыя калектывы — 30 хвілін (не менш за 3 творы без суправаджэння);

— харэаграфічныя ансамблі — 40 — 50 хвілін;

— аркестры — 40 — 50 хвілін (абавязковае суправаджэнне салістам не менш 5 твораў);

— тэатры — шматактовы спектакль;

— тэатры малых форм — праграму на 1 гадзіну;

— дзіцячыя тэатры — спектаклі на 30 — 40 хвілін.

У конкурсныя праграмы ўключаюцца творы кампазітараў-класікаў сусветнай і беларускай музыкі, апрацоўкі народнай музыкі, творы сучасных аўтараў.

Прыцягваць да ўдзелу ў фестывалі выканаўцаў-прафесіяналаў дазваляецца толькі ў якасці салістаў і ў ацэнку калектыву будзе ўключацца толькі суправаджэнне.

Пры ацэнцы калектыву журы ўлічвае:

— Узровень выканальніцкага майстэрства;
— Складанасць рэпертуару;
— Сцэнічнасць;
— Выкананне ўмоў конкурсу;
— Рэжысура праграмы;
— Музычнае суправаджэнне.

Па выніках конкурсу-прагляду калектывы ўзнагароджваюцца дыпломамі лаўрэата, дыпламанта І, ІІ, ІІІ ступеняў, спецыяльнымі прызамі фестывалю.

Па выніках правядзення дзён народнай творчасці раёнаў, заключных канцэртаў калектывы, асобныя выканаўцы ўзнагароджваюцца раённымі аргкамітэтамі; за развіццё народнай творчасці і за лепшую арганізацыю і правядзенне фестывалю раёны ўзнагароджваюцца грашовымі прэміямі Мінгарвыканкама, якія выкарыстоўваюцца на прэміраванне кіраўнікоў калектываў народнай творчасці, арганізатараў фестывалю, асобных выканаўцаў.

Фінансавае забеспячэнне фестывалю.

Першы і другі этапы фестывалю, выстава самадзейных мастакоў горада фінансуюцца ўпраўленнем культуры Мінгарвыканкама, трэці этап (Дні народнай творчасці) — адміністрацыямі раёнаў.

Заўвага: Умовы ўдзелу самадзейных калектываў у Днях народнай творчасці раёнаў распрацоўваюцца раённымі аргкамітэтамі.

# А ЖЫЦЦЁ ПАЦЯКЛО ДАЛЕЙ...

## ДУМКІ З НАГОДЫ АДНАГО ЮБІЛЕЮ

З ТЫМ, што юбілеі бываюць розныя — знамянальныя і не вельмі, цікавыя і не надта, пагодзяцца многія. Да якога разраду аднесці 70-годдзе І з'езда работнікаў сельскіх палітыка-асветніцкіх устаноў, які адбыўся ў сакавіку 1927 года, вызначыць складана. У савецкі час, магчыма, гэтая дата адзначалася б больш-менш прыстойна, цяпер спадзявацца на гэта не прыходзіцца. Аднак і сам з'езд, і папярэдняе культурнае развіццё заслугоўваюць увагі і новага асэнсавання. Для тых часоў з'езд быў надзвычай важнаю падзеяй дзяржаўнага ўзроўню, якая падводзіла вынікі культурнага жыцця вёскі за 10 гадоў савецкай улады.

Аналізуючы развіццё культуры ў першае дзесяцігоддзе савецкай улады, не зусім разумна абмяжоўвацца колькаснымі характарыстыкамі дасягненняў у школьнай, культурна-асветніцкай справе ці матэрыяламі аб дзейнасці тэатраў, пісьменніцкіх аб'яднанняў, тагачаснага друку. Убаку застаецца культурнае жыццё глыбінкі, асабліва вёскі. А ў 20-я гады сялянства складала больш за 80 працэнтаў насельніцтва Беларусі і ад стану вёскі залежала развіццё не толькі эканомікі, але і культуры ўсёй рэспублікі. Ва ўсе стагоддзі развіццё нацыянальнай культуры адбывалася на аснове роднай мовы, маральных, этычных, рэлігійных народных традыцый. Як пісаў У.Караткевіч: "Пакуль народ арэ і цяслярыць, пакуль стаіць з чапялою ля пячы сялянская баба, датуль не згіне ні мова, ні праўда, ні чалавечнасць, ні сам чалавек". Аднак сацыялістычная рэвалюцыя прынесла новыя ідэі, якія змянілі змест і накірунак духоўнай культуры народа. Усебеларускі з'езд хатнікаў і падвёў некаторыя вынікі дзесяцігадоваму ўздзеянню на народныя масы новай культурнай палітыкі.

ЁН АДБЫЎСЯ ў сакавіку 1927 года, напярэдадні Усесаюзнага з'езда і прысвячаўся 10-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Па разнарадцы кіруючай арганізацыі — Галоўнага камітэта палітычнай асветы (Галоўпалітасвета), на яго з'ехаліся 303 дэлегаты — загадчыкі хатаў-чытальняў, механікі вясковых кінаперасовак, бібліятэкары. Былі запрошаны ганаровыя госці, абраны ганаровы прэзідыум, сказаны прывітальныя словы. Дарэчы, вершаванае прывітанне дэлегаты атрымалі ад Янкі Купалы. На ўсе дні работы з'езда была распрацавана культурная праграма — наведванне тэатра, музеяў, кіно. Самае карыснае і цікавае мерапрыемства —тыповы сялянскі вечар — арганізавалі артысты Вандроўнага тэатра пад кіраўніцтвам У. Галубка.

З'езд праходзіў з 14 па 17 сакавіка па адпрацаванай схеме: у першую чаргу — самы важны даклад аб чарговых задачах партыі на вёсцы, потым — справаздачы старшыні ГПА С.Шамардзінай і галіновых кіраўнікоў. Пры абмеркаванні справаздач прадугледжваліся выступленні з месц, па некаторых пытаннях запісвалася больш за сотню жадаючых выказацца. Радавыя работнікі гаварылі аб дрэнным матэрыяльным стане культасветустаноў, дрэнным забеспячэнні літаратурай, цікавай для сялянства, адсутнасці кваліфікаванай дапамогі з боку вышэйшых устаноў, перагружанасці хатнікаў і яшчэ шмат аб якіх праблемах. Хваліцца вялікімі дасягненнямі і поспехамі не выпадала. Можна сказаць словамі з выступлення наркама асветы А.Баліцкага: "Чым жыве сучасная вёска? У большасці яшчэ чуткамі, часам вельмі фантастычнымі. Жыве ў цемры... Ці могуць прывабіць хаты-чытальні сялян сваёй добрай абстаноўкай, поўнай бібліятэкай, даць магчымасць адпачыць? Не..."

У канцы работы з'езда былі прынятыя неабходныя рэзалюцыі і пастановы, і... жыццё пацякло далей.

Вось тут і паўстае пытанне: а як жа так здарылася, што дзяржаўныя палітыка-асветніцкія ўстановы не змаглі выканаць партыйныя рашэнні аб правядзенні ў сялянскія масы афіцыйнай палітыкі, аб прывіцці ім новай савецкай культуры? Няўжо справа была толькі ў матэрыяльных цяжкасцях? Хутчэй за ўсё прычына ляжала значна глыбей — у неэфектыўнасці, антынароднасці новай культуры, ці можа лепей, новай культурнай палітыкі. З аднаго боку, не хацелася б кідаць яшчэ адзін камень у гэтым накірунку; а з другога — нельга не прызнаць, што ў творах кіраўнікоў савецкай дзяржавы немагчыма знайсці роздумаў, заўваг аб развіцці народнай культуры ці хаця б прызнання наяўнасці ў народа шматвекавых маральна-рэлігійных, этычных нормаў і правілаў. Наколькі вядома, размова ўвесь час вялася вакол буржуазнай культуры, якія яе здабыткі патрэбны пралетарыяту, а без якіх ён зможа і абысціся.

ПАДЧАС грамадзянскай вайны было не да вялікіх пераўтварэнняў, а пасля яе заканчэння пачалася тэрміновая распрацоўка асноўных накірункаў палітычнага, эканамічнага і ідэалагічнага развіцця грамадства. Як вядома, культурная стратэгія была распрацавана У.Леніным, аднак і іншыя дзеячы партыі ўнеслі ў гэта сваю долю. Значны ўплыў на выпрацоўку культурнай палітыкі аказаў А.Луначарскі. У гэтым сэнсе вельмі паказальнай была яго прамова на першай Усерасійскай нарадзе палітасветаў у лістападзе 1920 года. Гэту кароткую прамову можна прыраўняць да многіх тамоў партыйных пастаноў і рашэнняў, настолькі яна ёмістая і бліскучая паводле зместу, проста цэлы феерверк думак. Наркам асветы РСФСР, выкарыстоўваючы цытаты з Евангелля, К.Маркса, В.Гюго ў якасці асноўных аргументаў, прадставіў слухачам пералік задач культурнай сферы. Яе асноўныя палажэнні заключаліся ў наступным: "У Сацыялістычнай Рэспубліцы не можа быць іншага асветніцтва, акрамя сацыялістычнага... Калі лепшая частка рускай інтэлігенцыі не стане ў рады будаўнікоў новага грамадства, яна ганебна закончыць сваё жыццё... Толькі ідэалогія пралетарыяту можа быць агульначалавечай... Непахіснасць волі рабочага класа ўзнікае ад цвёрдых перакананняў у тым, што ён робіць абсалютнае дабро для ўсяго чалавецтва... Маючы смеласць лічыць сябе верхнім паверхам агульначалавечай культуры, мы не можам адмовіцца ні ад адной яе часткі... Усё павінна выкарыстоўвацца дзеля выхавання сапраўднага сучасніка. Наша палітычнае асветніцтва павінна быць усеабдымным, насычаным рэвалюцыйным духам самага баявога накірунку творчай волі".

І закіпела работа. Пры Наркамаце асветы ствараецца Галоўпалітасвет з некалькімі аддзеламі, які кіруе ўсёй асветніцкай работай сярод насельніцтва. Пры партыйных камітэтах розных узроўняў дзейнічаюць агітацыйна-прапагандысцкія аддзелы. На краіну, можна сказаць, абрынулася лавіна пастаноў, рашэнняў, рэзалюцый па ўсіх накірунках жыцця, пачалі распаўсюджвацца ўлёткі, брашуры, плакаты з разнастайнымі заклікамі і абяцаннямі. Пачынаюць стварацца хаты-чытальні амаль што ў кожнай вёсцы, на апошнія капейкі выпісваюцца газеты, узнікаюць самадзейныя гурткі. Дзяржаўнымі распараджэннямі ўводзяцца новыя святы, адкрываюцца помнікі вядомым і малавядомым рэвалюцыянерам, пачынаецца ліквідацыя непісьменнасці. Гэты рэвалюцыйны энтузіязм захапіў, закружыў многіх, асабліва моладзь, якая паверыла ў лозунгі і ў абяцаную светлую будучыню.

Аднак у сваёй большасці сялянства з вялікім недаверам аднеслася да новай палітыкі, у тым ліку і культурнай. Яскравым паказчыкам гэтага стала яго нязгода матэрыяльна падтрымаць хаты-чытальні, якія былі пераведзены на самаакупнасць у першыя гады НЭПа. З многіх соцень іх засталося некалькі дзесяткаў. Гэты факт можа быць добрым прыкладам сацыяльных настрояў у вёсцы. Трэба прызнаць, што сялянства ў асноўным так і не змяніла свайго стаўлення да культасветустаноў, нягледзячы на паступовую актывізацыю іх дзейнасці. Чужой, незразумелай аказалася яна, нават лішняй і непатрэбнай на вёсцы, асабліва ў тым выглядзе і з тымі кадрамі, якія былі ў наяўнасці. Згадваю, як маці ўспамінала пра сваю працу, яна была загадчыкам хаты-чытальні на Піншчыне. А хаця размова ішла аб 40-х гадах, нічога амаль не змянілася: такое ж беднае памяшканне з партрэтам Сталіна, некалькімі газетамі ды маленькай бібліятэчкай, з якой маці вельмі падабалася кніжка "Иван Никулин — русский матрос". Рэгулярна ў хату-чытальню заходзіў адзін дзед паглядзець газеты і ўсё сварыўся на моладзь, якая сваім гоманам перашкаджала яму.

ЦЯЖКА ўявіць, якое прадстаўленне мелі сяляне аб, напрыклад, Парыжскай Камуне, да святкавання ўгодкаў якой яны заклікаліся, асабліва — каб пры гэтым здавалі грошы ў фонд МОПРа; ці якое дачыненне яны мелі да дзейнасці Марата альбо Рабесп'ера, як і да многіх астатніх рэвалюцыянераў усіх часоў і народаў. Зразумелае абурэнне, вострае пачуццё незадаволенасці выклікалі шматлікія агітацыйныя кампаніі па пытаннях харчпадатку, кааператываў, зemленадзялення і іншых балючых праблемах вёскі. Прапаганда вялася праз улёткі, плакаты, ствараліся вершаваныя творы, п'есы, напрыклад, "Гутарка рабочага і селяніна аб харчовым падатку", разыгрываліся агітацыйна-тэатралізаваныя сцэны суда над неплацельшчыкамі і г.д. Безумоўна, яны ўносілі нейкае ажыўленне, выклікалі вонкавую цікавасць, але глыбока захапіць, узрушыць вёску былі не здольныя. Сялянства заставалася пасіўным удзельнікам усіх мерапрыемстваў, тым больш што ні эканамічныя, ні палітычныя абставіны 20-х гадоў у вёсцы не давалі магчымасці ўспрымаць прапанаваны накірунак асветніцкай работы. Як і ў былыя стагоддзі, вёска жыла дваякім жыццём: тое, што адбываецца ў хаце-чытальні, — цікава, але чужое; а сваё, роднае і блізкае, застаецца на вячорках, святах, вяселлях.

За першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе была створана даволі стройная сістэма прапагандысцкіх устаноў на вёсцы — народны дом у райцэнтры і хата-чытальня на 8-10 тыс. жыхароў. На 1927 год у 100 раёнах Беларусі дзейнічала 97 народных дамоў і каля 300 хат-чытальняў. Але ў большасці сваёй што гэта былі за цэнтры культуры: 45 працэнтаў не мелі нават сваіх памяшканняў, з самым прымітыўным абсталяваннем у выглядзе некалькіх табурэтак і стала, без апалу, без газы, без дапамогі дзяржаўных органаў. З абурэннем пісаў адзін з нізавых работнікаў, што на яго просьбу купіць шашкі ці шахматы, начальнік адказаў: "Можа вам яшчэ карты купіць?"

НЕ МЕНШ важнай была праблема і з кадрамі, таму што спецыялістаў не было і ніхто іх спачатку не рыхтаваў. Толькі ў 1926 годзе пачалі працаваць курсы падрыхтоўкі хатнікаў, а ў 1927 годзе першы выпуск палітасветработнікаў зрабіла Магілёўская саўпартшкола. На справе большасць хатнікаў з'яўлялася сакратарамі камсамольскіх ці партыйных ячэек. Не ўяўляючы, чым карысным заняцца, некаторыя "хадзілі па сёлах і стралялі з нагана сабак". Зарплата была нізкая, і гэтая акалічнасць, як і папярэднія, прыводзіла да вялікай цякучасці кадраў.

Не садзейнічала паляпшэнню палітыка-асветніцкай работы і замацаванню кадраў і палітыка кіраўніцтва. Многія з яго прадстаўнікоў таксама не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі, але кіравалі, як тады казалі, праяўляючы "комчванство". Адносіны да нізавых работнікаў былі абыякавыя, патрабаваліся толькі іх справаздачы, прычым абавязкова з характарыстыкамі настрояў у вёсцы. Калі пачынаеш чытаць справаздачы, толькі дзіву даешся той колькасці мерапрыемстваў, якія нібыта праводзіліся — сотні дакладаў, лекцый, чыткі ўголас, бурная дзейнасць разнастайных гурткоў — ад сельскагаспадарчых да тэатральных. Здаецца, што толькі колькасць гэтых мерапрыемстваў магла пераўтварыць вёску ў культурную і адукаваную, глыбока ўспрыняўшую палітыку партыі і ўрада. Аднак значная колькасць іх была "папяровая", не прыходзіцца гаварыць і аб якасці, таму што асвету неслі малаадукаваныя людзі. Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў асветнікамі былі самыя высокаадукаваныя, аўтарытэтныя асобы, памяць аб якіх нашчадкі захавалі па сённяшні дзень, а мы і ў гэтым вызначыліся.

Трэба прызнаць, што культурнае жыццё вёскі не было такім аднакаляровым. Як гаварылася, народ зберагаў свае духоўныя здабыткі. У першыя пасляваенныя гады, прыкладна, у 1921—1923 гадах адбываліся вельмі цікавыя з'явы ў культурным жыцці. Мабыць, рэвалюцыйны энтузіязм ахапіў вельмі многіх, асабліва настаўніцтва, якое паверыла ў лозунгі новай улады і пачало прапагандаваць ідэю культурнага асветніцтва. Яны, "прымаючы пад увагу поўную адсутнасць бадай новае асветнае працы ў той час, калі сялянства вёскі, асабліва моладзь, адчувае надзвычайна пякучую патрэбу ў асвеце і павышэнні агульна-культурнага ўзроўню...", пачынаюць ствараць асветна-культурныя гурткі. Толькі на Барысаўшчыне такіх гурткоў у 1921 годзе налічвалася 27, паўсталі яны на Случчыне, Чэрвеньшчыне, Міншчыне. Сябры некаторых з іх ставілі задачу беларускага адраджэння. Мабыць, самы першы гурток з прыгожай назваю "Вянок", які падымаў гэтую ідэю, у красавіку 1920 года стварылі настаўнікі з мястэчка Крайск. Гурток ставіў і паказваў у навакольных вёсках беларускія п'есы, хор выконваў беларускія песні, а струнны аркестр — мелодыі, перад выступленнямі чыталіся лекцыі па беларусазнаўстве. Вянкоўцы зрабілі вельмі важную справу, арганізаваўшы ў 1921 і 1922 гадах святкаванне "Купалля" са спектаклем, выступленнем хору і аркестра, карагодамі і іншымі народнымі гульнямі.

ДЗЕЙНАСЦЬ культурна-асветніцкіх гурткоў доўжылася ў асноўным да 1923 года, а потым яна паступова згасла пад націскам афіцыйнай культурнай палітыкі. Першыя мірныя гады савецкая ўлада была занята ў асноўным вырашэннем жыццёва важных эканамічных задач, што давала некаторую свабоду неафіцыйнаму культурнаму асветніцтву. Пасля 1923 года карціна даволі рэзка мяняецца. Пачынаецца стварэнне стабільнай сеткі дзяржаўных асветных устаноў, галоўным зместам працы якіх стала палітычная асвета ў адпаведнасці з партыйнай лініяй, а галоўнай мэтай — стварэнне новай, сацыялістычнай культуры і выхаванне новага чалавека. Вынікі гэтай працы і падвёў з'езд работнікаў сельскіх палітасветустаноў у сакавіку 1927 года. Яны паказалі, што рух наперад немагчымы без захавання і пераемнасці народнай духоўнай культуры, народнага вопыту. Невыпадкова ў культурна-асветніцкай галіне, якая да нядаўняга часу заставалася такой жа палітызаванай, як у 20-я гады, захаваліся тыя ж самыя праблемы ў кадравай палітыцы, у фінансаванні, у формах і метадах працы. А сённяшні час ставіць перад культасветустановамі таксама важныя і патрэбныя задачы.

**Марыя БЯСПАЛАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры.**

ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

САКАВІЦКІ АРТ-ВІТРАЖ

# "ШАМПАНЬ-СКАГА!"

Калі казаць шчыра, дык увагу маю да афішы тэатра драмы "Вольная сцэна" ў той дзень прыцягнула менавіта назва спектакля. З афішы я даведаўся, што гэта камедыя ў дзвюх частках паводле твораў Антона Паўлавіча Чэхава "Сватаўство" і "Юбілей". Камедыя з шампанскім — выдатна. Ці шампанскае з камедыяй — таксама няблага. Відаць, варта схадзіць. А раптам сапраўды шампанскім пачастуюць.



Шампанскім, зразумела, не пачаставалі, але асалоду ад прагляду спектакля атрымаў большую, чым калі б пакаштаваў гэты шыкоўны напой. Мінімум дэкарацый, максімум акцёрскай ігры. Іскрыстай і шыпучай, вірлівай і захапляльнай. Звычайны сямейна-побытавы канфлікт прымушаў рабіць сур'ёзныя высновы — наколькі асцярожна і адказна трэба падыходзіць да выбару сваёй другой паловы. А то будзеш потым усё жыццё разыгрываць "фарсы", як герой спектакля.

Як частку перформенсу я ўспрыняў сцэнкі, што разыгрываліся на другім радзе глядзельнай залы. Там сядзела маладая жанчына з дзіцем гадоў трох на руках. Малое прагавіта цягнулася ў бок сцэны і ўважліва сачыла за падзеямі. Час ад часу звярталася да маці з пытаннем: "Мама, а што гэта тата робіць?" Гэта быў, відаць, самы ўдзячны і ўважлівы глядач.

У антракце можна было пaглядзець выставу графікі Андрэя Шкіпцова "Становішча рэчаў".

Гледачы засталіся задаволенымі спектаклем, тым больш што ў ім былі задзейнічаныя такія артысты, як Юрый Сідараў, Таццяна Мархель, Таццяна Жахоўская, Людміла Сідаркевіч, Ігар Сігоў і Ксенія Юрчанкова...

**Міхась БАШУРА**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# СТРАКАТЫЯ ПАДЗЕІ

* * *

У галерэі сучаснага мастацтва, што пры тэатры "Вольная сцэна", **19 лютага** адбылося адкрыццё выставы жывапісу Сяргея Клецкіна. Пошукі і эксперыментатарства мастака выклікалі сярод наведнікаў пэўны рэзананс.

* * *

**23 лютага** ў гонар Дня абаронцы Айчыны на вуліцы Камуністычнай (Cosmopolitan Club) адбыўся міні-фестываль "Рок-фемінізацыя-97", у якім узялі ўдзел гурты — "The Kexes", "Beegoodee","The Ravens", "Postscriptum".

* * *

**24 лютага** ў Педагагічным універсітэце імя Максіма Танка прайшла літаратурная антыфашысцкая вечарына "Бум-Бам-Літ Über Alles".

* * *

У Акадэміі мастацтваў **з 25 лютага па 13 сакавіка** экспануюцца фотаздымкі Міхала Баразны. Каменная заціснутасць у каменныя лабірынты назіраецца ва ўсім. Магчыма, з гэтай нагоды на закрыцці фотавыставы пройдуць чытанні тэкстаў літаратурных лабірынтшчыкаў, якія прадэманструюць грамадскасці сваю мастацкую салідарнасць з фотамастаком.

# "ПРЫРОДА ЁСЦЬ МАЯ РЭЛІГІЯ..."

Гэтыя словы могуць стаць лейтматывам не толькі выставы жывапісу, якая адкрыта ў выставачнай зале Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, але і ўсёй творчасці спадарыні Тамары Стагановіч, амерыканскай мастачкі беларускага паходжання.

Спадарыня Тамара нарадзілася на Наваградчыне. У 1950 годзе яна эмігруе разам з бацькамі ў ЗША, дзе атрымлівае мастацкую адукацыю ў Нью-Ёркскім універсітэце — Інстытуце прыгожага мастацтва. Мастачка бярэ ўдзел у выставах з 1956 года, дзе на першай сумеснай выставе з дванаццаццю амерыканскімі мастакамі яна была адзіным прадстаўніком беларускага эмігранцкага мастацтва.

Тамара Стагановіч зрабіла дзесяць персанальных і ўдзельнічала ў шматлікіх міжнародных выставах. На сёння яна займае адметнае месца сярод амерыканскіх мастакоў. Мастачцы пададуладныя розныя жанры і тэхнікі: графіка, жывапіс, манументальнае мастацтва. Дарэчы, яе пэндзлю належыць роспіс іканастаса Жыровіцкай Божай Маці Беларускай аўтакефальнай царквы ў Кліўлендзе.

Выстава, якая экспануецца ў Полацку, мае назву "Амерыка, мая Амерыка" і складаецца з 30 жывапісных работ, розных па тэматыцы. Яны ствараюць вобраз краіны зусім іншай, чым тая, аб якой мы звыкліся чуць і бачыць з экранаў тэлевізараў. Мы бачым Амерыку такой, якой яе любіць і бачыць мастачка — таямнічай краінай, якая спалучае зямное і касмічнае. Творы выкананы ў рэалістычнай манеры і прысвечаны дзвюм тэмам. Першая — гэта бясконцая прыгажосць і разнастайнасць амерыканскай прыроды. Мастачку вабяць вялікія прасторы і магутныя стыхіі, горныя вяршыні, маўклівыя скалы і хвалі акіяна.

Жыццё, культура і гісторыя карэннага насельніцтва Амерыкі, індзейцаў пуэбла — другая тэма яе твораў. Жывучы ў Амерыцы, Тамара Стагановіч старанна вывучае іх побыт, звычаі і рэлігію, захапляецца гарманічным суісnаваннем індыянаў з прыродай, Космасам.

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі амбасады ЗША. Пані Джанет Дэмірэй, аташэ па пытаннях культуры, інфармацыі і адукацыі, звярнулася да прысутных з прывітальнымі словамі і выказала спадзяванне на зацікаўленасць выставай палацкімі аматарамі жывапісу. Быў зачытаны ліст, які даслала "суродзічам палачанам" сама мастачка. У ім яна піша, што спадзяецца на сустрэчу ў старажытным Полацку, куды збіраецца прыехаць сёлета. Яна марыць "адчуць цеплыню сваіх суайчыннікаў да беларускай прыроды". Вынікамі гэтай паездкі, як спадзяецца мастачка, стане выстава "Беларусь, мая Беларусь".

Напрыканцы ліста спадарыня Тамара яшчэ раз выказвае падзяку ўсім і паведамляе, што дорыць Музею беларускага кнігадрукавання свой партрэт Францішка Скарыны — адбітак з дрэварыта.

Выстава жывапісу Т.Стагановіч прадэманстравала палачанам новую, цікавую старонку мастацкай культуры беларускага замежжа.

**Н.КАРЖЫЦКАЯ,**
**загадчыца аддзела выяўленчага мастацтва Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка.**

# "ШЧАСЛІВЫЯ ТЫЯ, ХТО БАЧЫЎ ВАС НА СЦЭНЕ"

Лютаўскім вечарам, у "балетны" дзень, пятніцу, у Нацыянальны тэатр оперы і балета трапіць аказалася нялёгка — аншлаг. Рэдкая ў нашы дні з'ява: ля пад'езда пытаюцца пра лішнія квіткі. Прычына не толькі ў тым, што афіша абяцала добры, часта вывозімы за мяжу спектакль — балет "Спартак". Але і ў тым, што прыпісана ўнізе афішы: "Спектакль прысвечаны юбілею народнага артыста Беларусі Віктара Саркісьяна".

"Заўсёды нечаканы", "танцоўшчык рэдкаснага дару", "абсалютны фаварыт" — так пісалі аб ім відавочцы яго танца. Так пішуць многа аб кім. "Піратэхніка скачкоў", "усемагутнае цела", "бліскучая ігра, запальваючая гледача" — гэта толькі аб ім. Валянцін Елізар'еў аднойчы прызнаў: "Тыя балетныя ультрасі, што робіць Віктар Саркісьян, могуць паўтарыць 1-2 выканаўцы ў краіне". А краіна ў той час была вялікая — СССР. "Усё давалася яму значна лягчэй, чым іншым артыстам балета, — піша ў сваёй кнізе "Беларускі балет у асобах" Юлія Чурко. — Да многага ён даходзіў інстынктыўна, а прыкладзеная праца дазваляла дасягнуць ужо надзвычайных вынікаў".

Нечаканы і яркі талент, нечаканы і яркі лёс. Родам з хутара Красноўка, што ў Растоўскай вобласці, Віктар Саркісьян паступіў у Мінскае харэаграфічнае вучылішча надзвычай позна, адразу ў перадапошні клас. Праўду кажучы, перад тым паспеў скончыць Растоўскае культасветвучылішча. Праз два гады ўжо танцаваў у трупе нашага Вялікага тэатра. Яшчэ праз два гады, у 1969, стаў лаўрэатам Першага міжнароднага конкурсу артыстаў балета ў Маскве.

Ён працаваў з выдатнымі харэографамі — А.Дадзішкіліяні, Г.Маёравым. А росквіт творчай формы супаў з найбольш плённымі гадамі ягонага аднагодкі Валянціна Елізар'ева. З Саркісьянам і ў чымсьці "на Саркісьяна" ставіліся "Кармэн-сюіта", "Стварэнне свету", "Ціль Уленшпігель", "Спартак". Так нараджаліся бліскучы, улюбёны ў сябе Тарэра, уладарны і жорсткі Крас, так з'явілася "палохаюча-антычалавечая" пластыка Д'ябла і караля Філіпа. Сіла вобразаў, створаных Саркісьянам, падкрэслівала, памнажала пазітыўны зарад, які нясе кожны елізар'еўскі спектакль.

Віктар Саркісьян не быў акцёрам аднаго амплуа. Ён жа станцаваў гераічныя партыі Машэкі і Івана ў глебаўскіх балетах "Курган" і "Альпійская балада". Ён жа — раскаваны і хітраваты цырульнік Базіль з "Дон Кіхота" — гэткі балетны Фігара.

Паўвекавы юбілей артыста супаў з дзвюма іншымі круглымі датамі: 30-годдзем творчага жыцця і 30-годдзем жыцця шлюбнага. Іх саюз з Вольгай Лапо, на думку сяброў, "можа служыць узорам дабрыні і святла".

Скончыўся спектакль, спусцілася заслона. А калі яна зноў узнялася, з узвышэння, на якім толькі што стаяў Спартак у акружэнні паплечнікаў, лёгка збег да рампы, зрабіў імклівы піруэт і застыў у эфектнай паставе ён, Віктар Саркісьян, па юначаму стройны і лёгкі. Нечакана збянтэжыўся, калі пасыпаліся віншаванні. Ад міністра культуры і ад Саюза тэатральных дзеячаў. Ад дырэктара Оперы і ад дырэктара харэаграфічнай школы, дзе зараз выкладае. І, зразумела, ад калег-танцоўшчыкаў. Інэса Душкевіч, усё яшчэ ў вобразе Фрыгіі, сказала коратка і важка: "Сённяшняя ігра артыстаў і поўная зала гледачоў — гэта дань удзячнасці вам і пакланенне вашаму таленту. Шчаслівыя былі тыя, хто бачыў вас на сцэне."

А пакуль у дырэктарскіх апартаментах збіраліся сябры, каб прадоўжыць віншаванні, мне ўсё ж такі ўдалося задаць свае пытанні юбіляру.

**— З якім пачуццём Вы глядзелі сённяшні спектакль?**

— Па-першае, з пачуццём удзячнасці. Артысты вельмі стараліся сёння, калі танцавалі ў мой гонар. Па-другое — з такім пачуццём, што зараз устаў бы і разам з імі станцаваў. Гледзячы на Руслана Мініна, сённяшняга Краса, я, здавалася, танцаваў разам з ім.

**— Каго б Вы вылучылі з танцоўшчыкаў?**

— Усе мне падабаюцца. Я ўсіх вылучаю. Спектакль прайшоў прыгожа, роўна, эмацыянальна.

**— Сённяшні высокі выканальніцкі ўзровень беларускага балета дасягнуты ў многім дзякуючы Вам, ці кажуць Вам гэта?**

— Часам кажуць, так. Хаця... Ёсць некаторыя месцы, напрыклад, у партыі Краса, якія сённяшнія выканаўцы трошкі, мякка кажучы, спрасцілі тэхнічна. Юрый Антоновіч Траян, з якім разам працавалі на сцэне, цяперашні дырэктар трупы, кажа мне: "Рэпеціраую з артыстамі, а яны мне кажуць, маўляў, навошта вы так "накруцілі", мы зараз пакутуем". А мы не "накруцілі", мы проста стварылі".

**— Вы задаволены сваёй працай у харэаграфічнай школе?**

— Задаволены. Я проста абавязаны аддаць свой вопыт, веды наступным пакаленням. Харэаграфічная школа — гэта як бы першая падрыхтоўка да харэаграфіі. З яе потым ідуць хто ў тэат альны інстытут, хто ў інстытут культуры. Найбольш здольныя могуць паспрабаваць сябе ў харэаграфічным вучылішчы.

**— Вам прапаноўвалі працаваць у тэатры рэпетытарам?**

— Пайшоўшы са сцэны, мы з жонкай, Вольгай Лапо, адразу паехалі ў Сірыю, па кантракце на 4 гады. І ў той час, пакуль мы там на пустым месцы стваралі балетную школу і тэатр танца, тут многа што змянілася.

**— Як Вам падабаецца апошняя праца Валянціна Елізар'ева — балет "Страсці"?**

— Мне падабаецца. Гэта вельмі ўражальны спектакль. Адназначна, вядома, яго не ацэніш. Многа акцёрскай прасторы.

**— Мне здаецца, калі б Вы зараз танцавалі, Вы б запоўнілі гэтую прастору па-свойму?**

— Думаю, так... Я ўспамінаю, што з прыходам у тэатр Елізар'ева тут пачаўся новы адлік балетнага часу. Елізар'еў не ішоў ад сябе асобна, ён ішоў ад выканаўцы. Гэта вельмі важна і вельмі рэдка так адбываецца. Ён цалкам давяраў нам, мы давяралі яму, такі быў альянс. І атрымліваліся цудоўныя спектаклі. Ніколі да гэтай пары спектаклі сучаснай харэаграфіі не вытрымлівалі такой колькасці пастановак. Тым болей калі казаць аб нацыянальных тэатрах і спектаклях, якія часцей за ўсё два-тры разы праходзяць — і ўсё, зніклі. Час — найбольш справядлівы суддзя. Падобна да таго, што ўсё зробленае была зроблена не дарма...

**Ігар КЛОКАЎ**



*На здымку: В.Саркісьян у балеце "Ціль Уленшпігель".*

**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

# "ГЭТА ЧАСТКА ЕЎРОПЫ ВАЖНЕЙ ЗА ПАРЫЖ..."

Менавіта такія словы прагучалі ў Брэсце падчас турнэ польскага акцёра Адама Ганушкевіча. Пазней акцёр аргументаваў сваё выказванне, маўляў, мне, як паляку, заўсёды цікавыя суседзі, як Беларусь і Літва, бо я і маё мастацтва ім больш зразумела і патрэбна. Магчыма, у словах папулярнага акцёра ёсць рацыя...

Пасольства Рэспублікі Польшча 22 лютага ў сталічным Доме літаратара арганізавала спектакль Адама Ганушкевіча, Магды Цвэнуўны, Эдыты Юнгоўскай, Брыгіды Туроўскай і Юліяна Марэ. Спектакль адбыўся не толькі па матывах вершаў Ярослава Івашкевіча. Першае аддзяленне складалі музычныя творы, напісаныя Анджэем Жылічам на вершы класікаў польскай літаратуры: Міцкевіча, Славацкага, Норвіда.



Падчас свайго турнэ па гарадах — Брэст, Баранавічы, Магілёў, Мінск — Адам Ганушкевіч сустракаўся з гледачамі і дзяліўся сваімі ўспамінамі пра Львоў, дзе нарадзіўся. Параўноўваў горад і жыхароў таго часу, часу, якім шмат гадоў жыў у сваіх успамінах, з сучасным жыццём. Размовы заўсёды былі цікавымі і карыснымі. Бо, як зазначыў спадар Ганушкевіч: "...людзі на пэўнай частцы Зямлі — насельніцтва. Людзі, якія не забыліся пра сваю мову — нацыя". Таму, акцёру вельмі важна ведаць падзеі і лад жыцця, якімі жыве сучасная Беларусь.

Трэба адзначыць, што тэатр спадара Адама Ганушкевіча на працягу 30-ці гадоў выклікае энтузіязм і самыя разнастайныя ацэнкі крытыкаў. Нягледзячы на крызісныя моманты, глядацкая зала заўсёды поўная.

Сам сябе акцёр лічыць традыцыяналістам у самым глыбокім значэнні гэтага слова. Кажа, што здольны несці адказнасць толькі за тую Польшчу, якую сам стварае ў тэатры.

Застаецца толькі падзякаваць спадару Пшэцішэўскаму, Першаму сакратару амбасады Рэспублікі Польшча, за новае знаёмства беларускіх гледачоў з прадстаўнікамі польскага тэатральнага мастацтва.

**Ж.В.**

*На здымку: А.Ганушкевіч.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# ВЫБАР ЛЯ НЯЎГЛЕДНАЕ МЯЖЫ

***З Паўла ГЛОБЫ, кіраўніка Авестыйскай астралагічнай школы, найчасцей вымагаюць прадказанняў або тлумачэнняў. Дзе што стрэліць, выбухне, перакуліцца дагары нагамі і як гэтага ўнікнуць. А што кажа гвяздарства пра такую датклівую, далікатную сферу чалавечай дзейнасці, як творчасць? Ці ёсць прыклады таго, як творы ўплывалі на людзей да такой ступені, што прадвызначалі іхні лёс? Што меліся спраўдзіць творцы, выпраўляючы сваіх герояў у блуканні па пакутах... старонак, палотнаў, стужак? Да ўсяго й само гвяздарства не цураецца літаратуры й мастацтва...***

— Любы твор калісьці нараджаецца, — адказаў Павел Паўлавіч. — А на ўсё, што мае нараджэнне, можна скласці гараскоп. І паводле гараскопа можна прадказаць жыццё і развіццё твора. Я займаўся доследамі ў гэтай галіне. Пераконваўся: шмат якія пісьменнікі, як правіла, герояў сваіх не вынаходзяць, не канструююць, але нібыта... нараджаюць, арганізуюць, так бы мовіць, героева нараджэнне — на старонках, на палотнах, на стужках. Бо ў тым выпадку, калі пісьменнікі пазначаюць даты нараджэння персанажаў, я, астролаг, ладзячы свайго роду экспертызу, пераконваўся: яны, персанажы, падпадаюць пад апісанне гараскопа! Яны маглі і жыць, і сканаць менавіта так, як апісана! Дастаеўскі ў "Ідыёце" ўсе сказаў пра Настассю Піліпаўну, і, пабудаваўшы гараскоп на дату яе нараджэння, 27 лістапада 1844 года, любы, нават не дужа прафесійны гвяздар пацвердзіў бы ўсё, што напісаў Дастаеўскі.

**— Ён угадаў? Адчуваў? Або ведаў?**

— Мяркую, ведаў. Бо ў ягоным пісьменніцкім дзённіку ёсць каментар пра прароцкую кнігу гвяздара Ліхтэнбергера (XIV ст.): пісьменнік сур'ёзна цікавіўся астралогіяй. Як і Набокаў. Даўшы дату нараджэння Лаліты (1 студзеня 1935 года), дакладна апісаў дзіця ранняга развіцця, з цяжкім фанабэрыстым характарам, з нязвыклымі сексуальнымі запатрабаваннямі... Аўтар не так шмат вынаходзіць і выдумвае, як яму часам здаецца. Вобразы... у небе, у паветры: аўтарская пяро скіроўваюць найвышэйшыя сілы. Тое самае сведчу пра пэндзлі мастакоў — паводле жыцця твораў можна вызначыць час і даты іх стварэння, напрыклад. Або наадварот — спрагназаваць усе непрыемнасці, усе небяспекі, якія будуць перасьледаваць гэты твор па жыцці. Як у выпадку з Рэмбрантавай "Данаяй", якую аблілі кіслатой. Можна прагназаваць і выкраданні, і перакупку, і страту...

**— Значыць, знакамітае Булгакава "рукапісы не гараць"...**

— ...апраўдана. І твораў сваё жыццё. Аўтар насамрэч — іхні праваднік. Акушэр і парадзіха аднaчасова. Містычны, цікавы працэс!

**— У беларусаў была рэліквія — крыж Еўфрасінні Полацкай. Ён спрыяў зямлі, нёс шанцунак, светлы лёс. Яго згубілі. Яго шукаюць. Замоўлена копія, на што даў сваё блаславенне галава царквы. Ці ж зможа копія замяніць аўтэнтык, набыць ягоныя якасці?**

— Трэба шукаць! Лепш даведацца больш дакладна, калі, пры якіх абставінах крыж стварылі ды страцілі, як, якім чынам, хто мог што ведаць. Тады і астралагічным шляхам можна вызначыць ягоны лёс.

**— Як Вы мяркуеце, ці варта ўсе летапісы, спісы, архіўныя каштоўнасці, дакументы, мастацкія творы вяртаць на землі іх стварэння (з цягам часу)? Ёсць меркаванне, што яны "працуюць" лепш у месцах свайго з'яўлення на свет...**

— Я сам — архіўны работнік, дый гісторык-архівіст паводле адукацыі. Дакументы мусяць быць на сваёй зямлі — у гэтым ёсць вялікі сэнс, бо зямля захоўвае вялікую сілу. Нават людзі, калі з'язджаюць, так ці інакш зберагаюць з ёй сувязі, повязь. Ёсць некалькі месцаў, чые архівы мусяць быць наладаваныя дакументамі нават з глядзішча астралогіі. Адно з такіх месцаў — ваш Полацк. Вялікая колькасць астролагаў адтуль выйшла, цэлая школа! Васіль Нямчын, Сімяон Полацкі, Елісей Бамелій (апошні вельмі шмат зрабіў для Масквы). Немчыну, дарэчы, належыць выказванне пра тры галіны дрэва, якія спачатку разыдуцца, а потым сыдуцца, — ён меў на ўвазе беларусаў, украінцаў і рускіх. Традыцыі полацкай астралагічнай школы трэба вывучаць, даследаваць нават гісторыкам. Але не надрукавана ніводнага рукапісу Немчына, у Полацку ніхто не шукае ягонае спадчыны. Беларусь мусіць ведаць і падымаць сваіх нацыянальных герояў, а Нямчын, безумоўна, такі герой, як і Сімяон Полацкі. Вы кажаце, архівы. Але шмат з гэтых архіваў цяпер у такім безнадзейным стане, што аднавіць, нават прачытаць сёе-тое ўжо немагчыма. Трэба паставіцца да пошукаў у самім Полацку сур'ёзна...

**— А як такая астралагічная плеяда ўзгадавалася там?**

— Мы ж не ведаем пэўна каранёў славянскага паганства. Але, супастаўляючы тое, што ведаем, з традыцыямі і абрадамі Авесты, няма сумніву: гэта была адзіная індаеўрапейская культура. З Авестай у славянскага паганства куды больш аналогій, як з іншымі рэлігіямі ды культамі (і назвы, і святкаванні Новага года ў сакавіку, і да т.п.). Мо старажытныя славяне і не ведалі Авесты, але вытокі ды карані — яўна родныя! А Полацк, думаю, быў звязаны з нейкім свяшчэнным месцам у старавечны; на ягоным месцы быў нейкі храмавы комплекс, магчыма, ён меў дачыненне да Авесты. Гэта трэба капаць, даследаваць... Хутчэй за ўсё Полацк — аналогія "Лясной зямлі" ў старажытных ведах; нездарма менавіта Полацк дае нам такіх найвыбітных асобаў, як Еўфрасіння, Усяслаў Чарадзей...

**— З іхняе часіны Беларусь перажывала навалу за навалай. Сярод іх — вынішчэнне мовы ды культуры.**

— Вы мусіце адказваць за свае страты, за гэтае вынішчэнне. Але вы... не страціце! Я мяркую, што Беларусь пачала ўжо падымацца: яна звязана са знакам Казярожца, упартым, павольным, нават марудлівым напачатку, але чэпкім. Вы — вельмі дакладны, пэўны народ. Вас пахаваць не ўдасца. Тым больш, у вас цяпер — тэндэнцыя пад'ёму: чым больш вас будуць ціснуць ды ўціскаць, тым вышэй і больш трывала вы падымецеся.



**— Вы сказалі, што мы адкажам за страты...**

— Так, і мову, і культуру, і мастацтва мусіце захоўваць, аднаўляць, адраджаць... Адказаўшы за тое, што, магчыма, ледзь не згубілі. Але, паўтараю, вы не згубіце! Усе людзі мастацтва — праваднікі дару Боскага, дабрадзейства, дабравесця. Не хаваю: ім лягчэй пераступіць мяжу дазволенага чалавеку, бо іхняя нервовая і душэўная арганізацыя далікатная, крохкая, датклівая. Можна... зрабіцца праваднікам не светлых, а цёмных сіл. Бо надта няўгледная рыска аддзяляе служэнне Богу ад паслугавання Д'яблу. Гэта — ганарлівасць, якую шмат хто з творцаў блытае з уласнай непаўторнасцю. І доўга жыве ілюзія таго, што робіць справу Боскую, светлую.

**— Ці можна сцвярджаць, што Таркоўскі ў "Сталкеры" прадказаў наш Чарнобыль?**

— Ну тады ўжо браты Стругацкія сваім "Пікнікам на ўзбочыне".

**— Яны прадчувалі?**

— Але не ведалі, калі. Нават у Немчына можна знайсці тое, што вы перажываеце цяпер. Чарнобыль, паразы, хваробы, прыгнёт скончацца куды хутчэй, чым мяркуюць, напрыклад, навукоўцы. Яны не ўлічылі некаторых фактараў, вядомых астралогіі. Не ўлічылі імунітэту біясферы і эфекту Вярнадскага: кангламерат усіх жывых істотаў, якія складаюць біясферу, і найбольш разумны яе прадукт — наасфера здольныя ўплываць на працэсы, нават на тыя, што спарадзіў Чарнобыль. Нават калі думкі людзей будуць пра недапушчэнне страшэнных наступстваў катастрофы, раны загояцца куды хутчэй.

**— Вы казалі, што астралогія — навука будучыні, дваццаць першага стагоддзя, і яе будуць вывучаць як любую навуку. А ці можа гвяздарства, ужо як навука, паўплываць на маральнасць, на выбар?**

— Астралогія не так мусіць уплываць, як даваць магчымасць выбару. Настаўляць чалавечыя вочы на тое, што чалавек мусіць рабіць сам! Сам! Астралогія — гэта дыягностыка лёсу, і сама яна, як навука, нікому нічога не вінная, рыхтык як фізіка, хімія або астраномія. Гэта мы вінныя — самі сабе.

**— Павел Паўлавіч, аднаго разу Вы бралі ўдзел у перадачы беларускага тэлебачання "Карамболь", і вядучы, наш абаяльны Ягор Хрусталёў, усё паўтараў, як ён не верыць Вам і як Вы мусіце яго пераконваць проста перад гледачамі ў студыі...**

— "Карамболь"? Ну, гэта несур'ёзная праграма. Мне кажуць часам, маўляў, вашае гвяздарства або не спрацоўвае, або й зусім не гвяздарства. Я адказваю: гэта не гвяздарства, а вы, людзі, мусіце працаваць. Разумееце? Астралогія — не наймічка. Яна ад вас не залежыць. А вы, уведаўшы праз яе, мусіце рабіць і працаваць. Вядома, яна надае вам велізарныя магчымасці, але яны, магчымасці, для тых, хто ўмее імі карыстацца і слушна арыентавацца. Астралогію няможна скарыстоўваць як панацэю, як малітву на ўсіх мовах, каб пазбыцца праблем. Наадварот: астралогія вызначае праблемы, з якімі трэба працаваць (так што, праўду кажучы, толькі дадасць іх лайдаку або баязліўцу). Яна — метад, сродак, які дапаможа, пакажа, акрэсліць, падкажа... Свет у бліжэйшы час будзе так сур'ёзна мяняцца, што без падобных навук нам яшчэ цяжэй будзе яго зразумець. І сябе ў ім, натуральна. Можна нарабіць шмат памылак.

**— Мо нашы сённяшнія памылкі, пастаянныя непаразуменні, выбухі войнаў, тэрарызм, агрэсіўнасць...**

— ... адзнакі эпахальных зломаў, змены цывілізацый. Калі чалавечы выбар важны, як ніколі! Вы нагадалі мне пра ўдзел у тэлешоу, пра тэлебачанне, — вось вам найлепшы прыклад чалавечага выбару. Тэле — скарыстанне законаў прыроды і навукі, а на чале навукі мусяць быць людзі са слушным духоўным выбарам. Калі яго не будзе, дык лепшыя дасягненні чалавецтва яму ж, чалавецтву, і нашкодзяць. І — шкодзяць. Зручнасць, хуткасць, ёмістасць тэлебачання — у якіх мэтах? На жаль, слушнасць, адказнасць за ўласны духоўны выбар не так часта абыходзіць кіраўнікоў таго ж тэлебачання; яны часам і самі не могуць у гэтым разабрацца... Таму, не паміналючы больш пра тэлебачанне, друк або навуку, я паўтару: выбіраць давядзецца. Выбар, уласна, ужо адбываецца. І мяжа часам няўгледная.

З Паўлам ГЛОБАМ
сустракалася
**Жана ЛАШКЕВІЧ**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 27.02.97. у 16.00.

Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 317
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.